# РУНЬ
газэта беларусаў Літвы

17 чэрвеня 2000 №32 кошт 1 літ


## БАЛТЫЙСКАЯ АСАМБЛЕЯ

*З 25 па 27 траўня ў Тарту (Эстонія) праходзіла Балтыйская Асамблея, на якой бралі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савету РБ сп. Сямён Шарэцкі й сябра Рады БНР сп. Хведар Нюнька. На гэтым прадстаўнічым эўрапэйскім форуме была прынятая «Рэзалюцыя аб становішчы ў Беларусі» (чытайце на стар. 7). Сп. Шарэцкі выступіў на асамблеі з кароткай, але дужа яскравай прамовай, якую, зь невялікімі скаротамі, падаем ніжэй:*

«Беларусь, ейны народ ня могуць сябе нават уявіць па-за Эўропай і ейных структураў. Сёньня мы вядзем змаганьне за свае права самім вызначаць свой лёс. І маем вялікую неабходнасьць у падтрымцы.

На жаль, сёньняшні беларускі ўрад, як паводле нацыянальнага складу чыноўнікаў на ключавых пасадах, пачынаючы з прэм'ера, гэтак і паводле праводзімай палітыкі, зьяўляецца для беларускага народу, па-сутнасьці, акупацыйным. Дый, апрача прэм'ера, яшчэ й міністрамі замежных справаў і абароны, куратарамі беларускай навукі, культуры, асьветы зьяўляюцца прыбышы з Усходу, палкоўнікі й генэралы. Цяпер вось да іх дадаўся яшчэ адзін генэрал, ведамы з сумных віленскіх падзеяў.

Больш таго, апошнія падзеі паказалі, што Беларусь цягнуць у нейкі ваеннапалітычны, эўра-азіяцкі саюз, а дакладней –паводле колькасьці дзяржаваў, каторыя ў той саюз уваходзяць –азіяцка-эўрапэйскі саюз, што ствараецца, нібыта, у тым ліку й для змаганьня зь міжнародным тэрарызмам.

Па-першае, згодна Канстытуцыі Беларусь павінная быць безьядзернай і нэўтральнай краінаю.

Па-другое, ні з поўначы, ні з захаду, ні з поўдня нам ніхто не пагражае.

Па-трэцяе, што тычыцца створанага саюзу й барацьбы з тэрарызмам – беларускі народ вельмі мірны, і ў нас няма аніякіх тэрарыстаў. Хіба што іх зьбіраюцца ўзрасьціць, а потым пачнуць змагацца дзеля таго, каб мець нагоду ўвесьці ў Беларусь замежныя войскі; ну, а пасьля гэтага (зноў-жа дзеля абароны Калінінградзкай вобласьці!) перакінуць іх і туды.

Усё гэта насьцярожвае, тым больш, што досьвед падобных злачынстваў, як вядома, назапашаны ў 1939-40 гг.

Тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі закончыўся 20 ліпеня мінулага году. Супраць ягонага рэжыму Генэральны пракурор РБ узбудзіў крымінальную справу. Вядзецца сьледзтва. У зьвязку з гэтым я, як кіраўнік адзінага ўжо цяпер легітымнага воргана – Вярхоўнага Савету РБ – яшчэ раз заяўляю, што ўсе дамовы ды іншыя дакуманты, падпісаныя былым прэзыдэнтам і незаконна, насуперак Канстытуцыі прызначанымі ім асобамі (да якіх адносіцца й генэрал Лантыпаў), – ад самага пачатку ёсьць няпраўныя, а таму іх чакае той самы лёс, які спасьцігі бесаромны пакт Молатава-Рыбэнтропа. Гэта толькі справа часу».




ПОСТАЦІ

# ЗАБЫТЫ КАМПАЗЫТАР

## ДА 125-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ КАНСТАНЦІНА ГАЛКОЎСКАГА



1875 — 1963

Тыповым прадстаўнікам віленскай інтэлігенцыі, якога ўвесь жыцьцёвы шлях зьвязаны зь Вільняю, зьяўляецца Канстанцін Галкоўскі. Ён адзін з тых нямногіх тутэйшых беларусаў, каторым пашчасьціла абмінуць усе нягоды шматлікіх палітычных зьменаў і катаклізмаў, што закранулі Віленшчыну, ды пражыць тут доўгае й плённае жыцьцё. Вядома, гэта не азначае, што неба над ягонаю галавою заўсёды было бясхмарным і нічога не замінала ягонаму творчаму росту ў варунках усьцяж зьменлівых акупацыйных рэжымаў. Аднак яму дапамагаў ягоны бясспрэчна вялікі талент ды абраная на ўсё жыцьцё мэта — служэньне музычнаму мастацтву.

Творчы шлях Канстанціна Галкоўскага пачаўся яшчэ ў першым дзесяцігодзьдзі XX ст., але ў асяродзьдзі беларусаў-віленчукоў ён зрабіўся найбольш ведомы ў міжваенным часе, калі стаўся адной з цэнтральных постацяў у музычнай культуры канца XIX — пачатку XX ст.

Нарадзіўся Канстанцін Галкоўскі ў Вільні 16 чэрвеня 1875 г. Тут і прайшло амаль усё ягонае жыцьцё. Памёр ён у веку 88 гадоў, пахаваны на мамэрыяльных могілках



*На кватэры А. Нэканды-Трэпкі пасьля канцэрту М. Забэйды-Суміцкага. Стаяць: С. Паўловіч, М. Танк, С. Станкевіч, В. Глякоўскі, Я. Станкевіч. Сядзяць: А. Нэканда-Трэпка, В. Багдановіч, К. Галкоўскі, М. Забэйда-Суміцкі, Р. Шырма, А. Луцкевіч. Унізе: В. Тумаш, М. Мілючанка. 1937 г.*

на Антокалі, дзе ў той час ужо хавалі найбольш заслужаных грамадзянаў гораду.

Сярэднюю асьвету Канстанцін атрымаў у родным горадзе. У 1908 г. скончыў Пецярбурскую кансэрваторыю. Быў вучнем такіх выдатных клясыкаў расейскай музыкі, як Рымскі-Корсакаў, Глазуноў, Лядаў. Ягонай дыплёмнай працай была трохактовая опэра «Цыганы» (паводле сюжэта Пушкіна), за якую пэдагагічная рада кансэрваторыі прысудзіла маладому кампазытару залаты мэдаль, — гэта быў ці не адзіны выпадак на працягу йснаваньня кансэрваторыі!

У 1909 г. Галкоўскі вярнуўся ў Вільню, дзе адразу ўключыўся ў актыўную дзейнасьць. Па-сутнасьці, ён разам з кампазытарам Людамірам Рагоўскім кіраваў усім музычным жыцьцём гораду. Арганізаваў у Вільні першы сымфанічны аркестар. Адначасна працаваў выкладчыкам у музычнай школе, а ў 1918 г. арганізаваў уласную музычную школу. У гэтым часе ён стварыў шмат музычных твораў, у тым ліку вялікую сымфонію, а таксама невялікія інструмэнтальныя п'есы й песьні.

Ва ўмовах Польшчы ў яго, як у прадстаўніка нацменшасьці, магчымасьці для працы былі абмежаваныя. Каб забясьпечыць сваё йснаваньне і ўтрымаць сям'ю, ён у асноўным займаўся пэдагагічнай працай. У гэты час ён вельмі зацікавіўся народнай песьняй. Зь пераездам у Вільню Рыгора Шырмы шмат працуе над гарманізацыяй песьняў, якія зьбіраў Шырма. Апрача апрацоўкі асобных песьняў Галкоўскі стварае харавыя сюіты, зь якіх найбольш ведамыя «Дуда» й «Каханьне». Пісаў ён музыку й на словы беларускіх паэтаў. Не абмінаў увагаю й літоўскую народную песьню, быў у блізкіх адносінах зь літоўскім асяродзьдзем Вільні, выкладаючы музыку як у беларускай, гэтак і літоўскай гімназіях. Цесна супрацоўнічаў ён і з нашым знакамітым сьпеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім, у рэпэртуары якога штораз большала песьняў напісаных кампазытарам Галкоўскім. Калі Забэйда прыяжджаў з канцэртамі ў Вільню, Галкоўскі быў ягоным сталым акампаніятарам. Канстанцін Галкоўскі працаваў таксама й арганістам у касьцёле рэфарматараў-эвангелікаў, што стаіць на Завальнай вуліцы, зрэдчас дырыгаваў віленскім сымфанічным аркестрам. Яшчэ да вайны пачаў працу над опэрай «Сымон-музыка», да якой сам напісаў лібрэта. Пасьля вайны спадзяваўся закончыць працу над ёй, спадзяваўся на падтрымку ў Савецкай Беларусі. Аднак спадзяваньні ягоныя былі дарэмныя.

З 1947 г. Галкоўскі стаўся прафэсарам Віленскай кансэрваторыі, з 1955 г. — народным артыстам ЛССР. У Беларусі-ж творчасьць Галкоўскага малавядомая, хаця некаторыя ягоныя творы трывала ўвайшлі ў рэпэртуары акадэмічных харавых калектываў. Затое літоўцы яго добра ведаюць, лічаць сваім нацыянальным кампазытарам.

...ным жыцьці тагачаснай Вільні. А трэба прызнаць, што беларускае музычнае жыцьцё тады ня толькі йснавала, але й даволі пасьпяхова разьвівалася, дзякуючы гэткім выдатным дзеячам, як Рыгор Шырма ды Канстанцін Галкоўскі. Дарэчы, яны блізка сябравалі, цесна супрацоўнічалі і, у нейкай ступені, дапаўнялі адзін аднаго. Менавіта Рыгор Шырма, ацэньваючы ролю Галкоўскага ў музычным жыцьці ў Заходняй Беларусі, сказаў: «Па колькасьці напісанага, па разнастайнасьці тэмаў і мастацкай вартасьці іх апрацоўкі першае месца ў Заходняй Беларусі займае кампазытар Канстанцін Галкоўскі». Нельга абмінуць увагаю й тое, што Галкоўскі, як карэнны віленчук, заслужыў глыбокую пашану ня толькі ў беларускім асяродзьдзі, а й ва ўсёй шматнацыянальнай Вільні. Беларус паводле паходжаньня, ён быў тыповым прадстаўніком літоўска-беларускага памежжа, спалучаў культурныя здабыткі абодвух народаў. Пры гэтым ён фармаваўся й на багатых традыцыях ра...

**Лявон Луцкевіч**

# Апошні званок



для выпускнікоў Віленскай беларускай сярэдняй школы імя Скарыны празьвінеў сёлета вельмі рана — 13 траўня. 10 вучняў-дванаццаціклясьнікаў сустрэлі яго ў прыўзьнятым гуморы — іх чакаюць іспыты за курс сярэдняй школы, але ўжо 5 зь іх пасьпяхова прайшлі тэсты, каторыя былі прапанаваныя Міністэрствам асьветы РБ. Пасьля здачы экзаменаў гэтая пяцёрка нашых выпускнікоў будзе залічаная студэнтамі вузаў Менску й Гародні. Маладыя людзі абралі ўжо сваімі будучымі прафэсіямі мовы, юрыспрудэнцыю й эканоміку. На школьным газоне ў памяць аб сабе вучні-дванаццаціклясьнікі пасадзілі дрэўца памяці.

Павал Саўчанка

## Нацыянальны саюз студэнтаў Эўропы

гэта ўплывовая эўрапэйская студэнцкая арганізацыя, у якую ўваходзіць і Зьедзіночаньне беларускіх студэнтаў. На канфэрэнцыю студэнцкага саюзу, якая адбылася напачатку траўня ў Вільні, прыехалі Аліна Шаліна, Галіна Яшчанка й Сяргей Зікрадзкі, — усе сябры Рады Зьедзіночаньня. Падобныя канфэрэнцыі адбываюцца два разы на год, у розных краінах. Мінулая канфэрэнцыя праходзіла на Кіпры, наступная адбудзецца ў Жэневе, а цяперашнюю ладзіў Літоўскі саюз студэнтаў. Галоўныя кірункі дзейнасьці нашага ЗБС у Беларусі гэта: пераход усяго навучаньня на ўсіх узроўнях у Беларусі на родную мову; абарона правоў беларускіх студэнтаў; абарона незалежнасьці краіны. Напрыклад, мінулай восеньню ЗБС праводзіла акцыю «Кожнаму студэнту па даху», падчас якой зэбээсаўцы пратэставалі, што беларускім студэнтам бракуе мейсца ў інтэрнатах, выступалі за паляпшэньня ўмоваў іхняга пражываньня. А вясною зладзілі вельмі ўдалую кампанію супраць заганнай сыстэмы разьмяркаваньня беларускіх студэнтаў (у Чарнобыльскую зону да прыкладу).

Алесь Трусаў

## Беларуская група

пры садку N 151 у мікрараёне Вільні Юсьцінішкес адкрылася ў верасьні мінулага году. Беларусы-віленчукі пакуль што неахвотна аддаюць сваіх дзетак у беларускі садок. Сёньня ў групе налічваецца ўсяго 8 выхаванцаў рознага ўзросту, ад 2 да 5 гадоў, — і гэта пераважна дзеці мяйсцовай сьведамай беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку выкладчыкаў беларускай катэдры Віленскага пэдунівэрсытэту й настаўнікаў беларускай школы імя Ф. Скарыны. Выхоўваюць нашых дзетак спадарыні Галіна Баран і Ларыса Пятровіч. Падтрымка з боку віленскай бел. грамадзкасьці пакуль яшчэ вельмі слабая. Сапраўдную дапамогу аказвае толькі Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, якое ачольвае сп. Лявон Мурашка, ды нашая сярэдняя школа. Падтрымлівае беларускую групу дзяцей і супрацоўнік беларускай амбасады ў Літве сп. Скараходаў. Выхавацелькам і дзецям не стае добрых мэтадычных дапаможнікаў. Нягледзячы на цяжкасьці, выхавацелькі Галіна й Ларыса поўныя аптымізму й лічаць, што наступнага верасьня ў групе будзе значна больш гадаванцаў, чым цяпер. Яны таксама спадзяюцца на дапамогу з боку беларусаў Вільні й Літвы.

Тэлефон для кантактаў: 42 90 75.

Алесь Трусаў

## Зэльва

маляўнічае беларускае мястэчка, гасьцінна сустрэла вучняў Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. У гэтым багаславенным ціхім гарадку прайшло дзяцінства нашае славутае паэткі Ларысы Геніюш, хоць нарадзілася яна ў фальварку Жлобаўцы, якога ўжо няма, як няма ягонай назвы. У Зэльве тварыла паэтка свае геніяльныя вершы, тут яна змагалася за беларускасьць, тут яна проста любіла свой народ і зямлю. І зараз яшчэ на зэльвенскай зямлі жывуць людзі, каторыя памятаюць ейныя апошнія гады, нязгасную веру паэткі ў лепшае жыцьцё пасьля яе. Цікавы аповед пачулі нашыя гадаванцы ад пляменьніцы Ларысы Геніюш, 67-гадовай спн. Ірыны, вялікай прыхільніцы творчасьці паэткі. Віленчукі схілілі галаў перад магілай Ларысы Геніюш, зьведалі мяйсцовую бібліятэку, дзе цяпер з нагоды 90-годзьдзя слаўнай дачкі беларускага народу адкрытая выстава «У вянок Ларысе Геніюш», пабывалі ў школе N3, дзе памятаюць ейнае сьветлае імя, захапляюцца ейнымі творамі. Паездка на радзіму Ларысы Геніюш была нам як промень сьвятла ў гэтым вялікім і незаўсёды спагадлівым сьвеце.

*Настаўніца роднай мовы* **Алена Базюк**

## Рамантычная вандроўка

выдалася ў Зэльву. Ехалі мы ў гэтае мястэчка ажно 5 гадзінаў на школьным аўтобусе. Прабылі там 2 дні. Першага дня наведалі бібліятэку, сядзібу, дзе жыла нашая знакамітая паэтка Ларыса Геніюш, каталіцкі храм. Пра пакручастае жыцьцё паэткі ў гады савецкай улады нам распавялі настаўніцы беларускай мовы й фізкультуры. Не зважаючы на ўсе перашкоды, кнігі паэткі, рукапісы й фатаздымкі захаваліся да нашых дзён. У часе вандроўкі вельмі захапляльны быў вечар, праведзены ля возера. Варылі юшку й смажылі шашлыкі. Вярнуліся позна й доўга яшчэ не маглі заснуць. Назаўтра наведалі Сынкавіцкую царкву й Зэльвенскую школу N3. Сынкавіцкая царква — абарончага тыпу, з таўстымі мурамі. Яна пабудаваная за часам Вялікага князя Вітаўта. Дырэктар школы распавёў нам гісторыю школы, паказаў клясы й кабінэты, прыгожа абстаўленыя — там шмат чаго зробленае рукамі саміх вучняў. Васьмікласьнікі паказалі нам сваю самадзейнасьць — літаратурна-музычную экспазыцыю, прысьвечаную пісьменьнікам, каторыя жылі ў Зэльве й ейных ваколіцах.

*Вучань* **Міраслаў Авіжэнь**

## Па вулачках Зэльвы

хадзіла вядомая беларуская паэтка Ларыса Геніюш. Тут яна правяла значную частку жыцьця, пахавала свайго мужа, пахаваная сама. Вокны суседзкага дому пільна сачылі за кожным крокам паэткі, «ворагам народу». З усіх бакоў Зэльву атуляе сасновы бор, на зялёнай прасторы раскінулася вадасховішча. За 20 кілямэтраў ад мястэчка, у в. Сынкавічы, стаіць старажытная царква, сьведак гісторыі нашых продкаў і таямніцаў, якія мы ня можам разгадаць дагэтуль. Калі ўваходзіш у царкву, здаецца, што ты апынуўся ў далёкім часе князя Вітаўта.

*Вучаніца* **Натальля Путкова**

## Наведала Вільню

група моладзі з Праваслаўнага брацтва імя К. Астрожскага, што дзейнічае ў Менску. Прыехалі яны разам з сваім духаўнікім айцом Аляксандрам Верамейчыкам. Уладкаваўшыся ў мурох Сьвятадухава манастыра, моладзь выправілася на экскурсію па Вільні. Яны агледзілі муры Базылянскага манастыра, дзе колісь месьцілася Беларуская гімназія ды музэй імя Івана Луцкевіча, дворык каля будынку, дзе працаваў Скарына, магілу Кастуся Каліноўскага на Лукіскім пляцы, магілы славутых беларусаў на Росах, пабывалі ў праваслаўных саборах, дзе, на жаль, казаньні вядуцца выключна на расейскай мове, хоць сярод прыхаджанаў нямала беларусаў. Моладзь наведала таксама офіс рэдакцыі «Руні» й дамкі ТБК, дзе перад імі выступілі сп. Х. Нюнька й сп. Сямён Шарэцкі.

Павал Саўчанка

## Мітынг пратэсту

адбыўся 29 траўня пры беларускай амбасадзе ў Літве з нагоды абраньня намесьнікам міністра абароны РБ ген. Усхопчыка, былога вайсковага камэнданта Вільні. Гэта ён кіраваў дзеяньнямі расейскіх войскаў падчас крывавых студзеньскіх падзеяў у Літве ў 1991 г. і згодна літоўскіх законаў да сёньня лічыцца ваенным злачынцам. Зладзіла мітынг уплывовая палітычная літоўская арганізацыя Ліга свабоды Літвы. На мітынгу выступілі вядомыя літоўскія палітыкі, дэпутаты сойму, а таксама й дзейны Старшыня Вярхоўнага Савету РБ сп. Сямён Шарэцкі. Сярод мітынгоўцаў былі й прадстаўнікі віленскай бел. грамадзкасьці, якія трымалі перад лукашэнкаўскай амбасадай нашыя бел-чырвона-белыя сьцягі.

А. М.

## Нямецкія студэнты-палітолягі

з Вольнага ўнівэрсытэту ў Бэрліне разам з прафэсарам Ёганесам Шлоотцам напачатку чэрвеня цэлы тыдзень правялі ў Вільні. У офісе Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі» яны мелі сустрэчу з студэнтамі беларускай катэдры пэдунівэрсытэта, каторыя неўзабаве паедуць у летнія лягеры ў Нямеччыну. Другім разам яны спаткаліся там з старшынём Вярхоўнага Савету РБ сп. Сямёнам Шарэцкім, які прачытаў гасьцям зьместоўную лекцыю «Эўрапэйская палітыка й Беларусь», супрацоўнікі Цэнтру паказалі прысутным вострапалітычны фільм пра сучаснае становішча ў Беларусі.

А. М.

## Ацэнка злачынстваў камунізму

Міжнародны кангрэс з такой назвай адбыўся ў Вільні з 12 па 14 чэрвеня.

Вось што сказаў Зянон Пазьняк: "Прамаўляючы слова "камунізм", я маю на ўвазе тую сыстэму ўлады, тую сыстэму палітыкі і тую ідэалёгію, якая існавала ў былой расейскай імпэрыі СССР з 1917 па 1991 гады. Імпэрыя ніколі не распадалася: яна зьмянялася, пераменьвала форму, у часе пераменаў траціла ненадоўга на ўскраінах свае тэрыторыі, каб потым, набраўшы рускага, бізантыйскага ці прускага вопыту, усё вярнуць і пакацціца наперад, нічога не ствараючы, душыць, спажываць, рабаваць, разбураць і хлусіць. Хлусьня ёсьць самым істотным вызначэньнем стылю палітыкі, стылю існаваньня і дачыненьняў расейскай імпэрыі."

Сямён Шарэцкі ў сваім выступе на Кангрэсе спыніўся на тыпалягічных параўнаньнях паміж фашызмам і камунізмам, і прыйшоў да высновы, што сёньняшні рэжым на Беларусі, які рэалізуецца камандай Лукашэнкі, ёсьць, па сутнасьці, спалучэньнем дзьвюх гэтых таталітарных структураў. У прыватнасьці ён сказаў: "Трэба, каб гэты рэцыдыў бальшавізму ці камуністычнага рэжыму больш не распаўсюджваўся, бо ён пачаў адраджацца ўжо ў самой Расеі. Больш за тое, я сёньня падкрэсьлю, што там камуністычны рэжым ня толькі адраджаецца, але ён і спалучаецца з расейскім вялікадзяржаўным шавінізмам.

Беларускі ўрад – акупацыйны. Там усе ключавыя пасады займаюць расейцы, прычым ваенныя. Палкоўнікі, генэралы і г.д. Гэта расейцы, прысланыя з Масквы. А мы ўжо ведаем, чым гэта сканчаецца. Да Мазурава ўсе першыя сакратары ЦК былі людзі, прысланыя з Масквы. Пасьля сябе яны пакінулі нам Курапаты".

Удзельнікі Кангрэсу неаднойчы сьцьвярджалі, што калі нацысты, пацярпеўшы паразу у Другой усясьветнай вайне, атрымалі адпаведную ацэнку з боку цывілізацыі, то камунізм усправіцца шмат дзе як ідэя, якую проста не ўдалося ўвасобіць належным чынам на практыцы. Сьцьвярджаючы, што нарэшце трэба саму ідэю гэтую асудзіць, як людажэрскую, удзельнікі Кангрэсу сьцьвярджаюць тым самым і неабходнасьць перакрыць магчымасьць паўтарэньня, укараненьня камунізму ў будучым.

Ёнас Лаўрынавічус

## «Сяброўскае» пажаданьне?

На КАНГРЭСЕ АСУДЖЭНЬНЯ ЗЛАЧЫНСТВАЎ КАМУНІЗМА быў заўважаны наступны парадокс. Сярод сьцягоў краінаўўдзельніцаў быў, зразумела і беларускі. Але менавіта той сьцяг, (з мадыфікацыямі 95 г.), пад якім і зьдзясьняліся... ЗЛАЧЫНСТВЫ КАМУНІЗМУ на тэрыторыі Беларусі. Проста арганізатары, ня доўга думаючы, дасталі з складу набор стандартных афіцыйных сьцягоў. Аднак, нязважаючы на абсурднасьць спалучэньня камуністычнай сымболікі з антыкамуністычным пафасам імпрэзы, беларуская дэлегацыя ўсе дні прымала ўдзел у працы КАНГРЭСУ. І толькі ў апошні дзень, паводле словаў сэкратара аргкамітэту, чольнікі беларускай дэлегацыі зьвярнуліся да арганізатараў зь сяброўскім пажаданьнем у тым сэнсе, што ім (арганізатарам) трэба было-б выбраць іншы сьцяг.

*Телефон оргкомитета Конгресса: +3702 227112.*

*Паводле Інтэрнэтнай старонкі WWW.DRANIKI.COM*

# Грамадзка-палітычныя погляды магілёўцаў напрыканцы 20-ых гг.

Напачатку гэтага году ў Магілёўскім дзяржаўным унівэрсытэце імя А. Куляшова зь ініцыятывы мяйсцовых «патрыётаў» было наладжанае абмеркаваньне новых школьных праграмаў і падручнікаў, выдадзеных за апошнія 10 гадоў. Адзін зь лідараў магілёўскіх камуністаў, таварыш Дайнека, выказаў думку, што развал і ўсе нашыя непрыемнасьці распачаліся ад таго моманту, калі быў разьвянчаны «культ Сталіна». Гэтым, маўляў, парушылі аднадушша, веру й адзінства... А я падумаў: «Ці такая ўжо аднадушная была падтрымка дзеяньняў камуністычных уладаў з боку тых, хто ня браў зброю ў другой палове 20-ых гг.?»

Адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў «зусім сакрэтных інфармацыйных зводках аддзелаў ДПУ». Нагадаю, што яны складаліся на той час у акругах за пэўныя пэрыяды й адсылаліся ў Менск у ДПУ Беларусі. Мною былі прааналізаваныя зводкі Магілёўскага акруговага аддзелу ДПУ за 1926-28 гг. У зводках гаворка йдзе пра факты падтрымкі альбо крытыкі дзеяньняў бальшавіцкіх уладаў і негатыўнага стаўленьня жыхароў Магілёўшчыны да камуністычнай рэчаіснасьці. Пасьля апісаньня сутнасьці справы коратка пазначаныя прынятыя меры: «установить наблюдение», «ведётся разработка связей» або проста «приняты меры».

1926-28 гг. – пэрыяд часовай і частковай лібэралізацыі ў эканоміцы й грамадзкім жыцьці БССР. Яшчэ канчаткова не сфармаваўся таталітарны рэжым, таму людзі пакуль не баяліся выказваць свае думкі. Бальшавіцкія ўлады гэткім чынам практыкавалі падтрымку сваіх дзеяньняў з боку «масаў» – яны выказваліся на «агульных сходах», «зьездах» і пад. Усе дзеяньні бальшавікі рабілі нібыта згодна з патрабаваньнямі працоўных: закрыцьцё й «изымание» цэркваў, зьнішчэньне абразоў, скасаваньне рэлігійных сьвятаў у якасьці непрацоўных дзён, асуджэньне ці падтрымка тых ці іншых падзеяў у замежжы. Ведома, хто рыхтаваў рэзалюцыі сходаў і як яны прымаліся.

Аднак, што гаварылі людзі паміж сабою на тых самых сходах, у будзённым жыцьці, на прадпрыемствах? Асабліва рабочыя, катория на думку «вучоных-патрыётаў» былі найбольш сьвядомыя й зьяўляліся падмуркам камуністычнай сыстэмы? Ворганы ДПУ зафіксавалі сотні й тысячы фактаў незадаволенасьці дзеяньнямі камуністычных уладаў, напрыклад, нізкімі заробкамі рабочых на прадпрыемствах і настаўнікаў у школах. Так, інфармзводкі ДПУ за май 1927 і жнівень 1926 г. зафіксавалі незадаволенасьць рабочымі абутковай фабрыкі й завода «Пралетары», фабрыкі «Спартак» (Шклоў), заводаў «Зара», «Зьвязда» ды інш. Рабочыя казалі: «Кошты на прадукты на рынку павялічыліся ў два разы, а зарплата стаіць на адным месцы». Як сёньня, так і ў тыя часы несвоечасова выплочвалі заробленыя грошы: «Спазьненьне выдачы зарплаты на май месяц на некалькі дзён на цагляным заводзе N2 суправаджалася антысавецкім выступленьнем трох рабочых, якія казалі, што «мы напрацягу пяці месяцаў галадалі, а цяпер нам затрымліваюць зарплату».

Сяляне таксама выказвалі сваю незадаволенасьць: «недахопам харчаваньня... семяны й ссуду ў цэлым шэрагу выпадкаў зьелі... адсутнасьцю кармоў для жывёлы, разьбіралі салому з дахаў... цяжкасьцямі з атрыманьнем крэдытаў, коштамі на семянны тавар... серадзнякі незадаволеныя сельгаспадаткам... затрымкі ў землеўладкаваньні... вялі размовы аб неабходнасьці зьдзейсьніць другую рэвалюцыю».

Больш паловы выказваньняў, на думку ДПУ, складаюць выказваньні небясьпечныя самому йснаваньню камуністычных уладаў. Іх шмат. Прывяду найболш характэрныя (у маім перакладзе – І. П.):

«Інфармзводка на 20. 11. 1926 г. (выказваньні рабочых друкарні ў размовах і на сумесным паседжаньні з падшэфнай вайсковай часткай):... партыя не дае рабочым магчымасьці выбіраць у свае прафсаюзныя ворганы таго, каго жадаюць рабочыя, а насаджаюць партыйцаў... савецкая дзяржава бедная таму, што партыя паўсюль насаджае загадчыкамі партыйцаў, якія не разумеюць нічога ў справе й толькі атрымоўваюць вялікія заробкі, адсюль нашыя прадпрыемствы толькі дэфіцытныя».

«Інфармзводка на 17. 08. 1926 г. (выказваньні наконт падзеяў на XIV партзьезьдзе й пазыцыі Ленінградзкай арганізацыі):... некалькі рабочых друкарні выказвалі думку, што неўзабаве ў Расеі будзе пераварот, бо камуністы ўжо падзяліліся на два лягеры й чыняць адзін на аднаго тайныя сходы. Рабочы друкарні Стрэльцын сказаў: «Нават калі цяпер пішуць, што поўная свабода слова й друку, дык у сапраўднасьці гэтага няма, нават для камуністаў». Прычым заўважыў, што член ЦК Гесін ня быў згодны з ЦК, дык яго зараз-жа з ЦК выкінулі...» (выказваньні наконт страйку ў Англіі й дапамогі ангельскім рабочым):... На заводзе «Зьвязда» рабочыя Клімаў і Дзялячка ў прысутнасьці іншых рабочых выказаліся, што «улада давіць рабочых і што яна не адрозьніваецца ад старых царскіх міністраў». Рабочыя таго самага заводу Сьвіст, Мураўёў, Аверка выказаліся ў прысутнасьці іншых, што ў «Расеі цяпер і так малы ўраджай, а бальшавікі адпраўляюць хлеб за мяжу за пазыкі й на дапамогу замежным рабочым, адсюль кошты на хлеб у нас будуць павялічвацца, а расплочвацца нам давядзецца...» (выказваньні наконт перавароту Пілсудзкага ў Польшчы):... мэханік таго самага заводу, паляк Войцаль, у размове зь іншымі рабочымі ўсхваляў Пілсудзкага, кажучы, што «ён завядзе ў Польшчы лепшыя парадкі, чым у Расеі», што Пілсудзкі больш сацыяліст, чым бальшавікі».

«Інфармзводка на 18. 01. 1926 г. На заводзе «Зара» рабочы Аўдзееў вёў сярод рабочых агітацыю, што стары царскі час і наогул жыцьцё былі лепшымі... На фабрыцы «Спартак» (Шклоў) на сходзе рабочых... служачы Радушкевіч заявіў, што «партыя вылучае на адказныя пасады камуністаў, а тыя абкрадаюць дзяржаву, і казаў, што калі чырвонаармеец скрадзе 5 пудоў кукурузы, дык яго растрэльваюць, а калі член партыі скрадзе грошы, дык падчас суда прымаюць пад увагу ягоныя розныя заслугі ды апраўдваюць...» Калі была прапанаваная рэзалюцыя паводле даклада, Радушкевіч прапанаваў дадатак у рэзалюцыі пра неабходнасьць, каб партыя рабіла справаздачу перад беспартыйнымі аб сваёй працы, бо яна за час свайго йснаваньня перад рабочымі сябе не апраўдала, і што партыя гэта тое самае дваранства... Падчас ягонага выступу вакол яго згрупаваліся рабочыя й падтрымлівалі ягоныя прапановы...»

«Інфармзводка на 05. 05. 1927 г. (... выказваньні рабочых на абутковай фабрыцы й заводзе «Пралетары»): ... што савецкая ўлада й КП(б)Б толькі лічыцца абаронцамі інтарэсаў рабочых, а ў сапраўднасьці яна паляпшае толькі становішча камуністаў, даючы ім усемагчымыя прывілеі...»

Не заставаліся ў баку й сяляне:

«Інфармзфодка на 17. 08. 1926 г. (Магілеўскі р-н, в. Семукачы): ... факт прапановаў сялянаў з указаньнем неабходнасьці стварэньня «сялянскіх саюзаў» дзеля таго, каб дамовіцца з рабочымі пра адзіныя дзеяньні супраць рэжыму ўлады, якая не рабоча-сялянская».

Інтэлігенцыя Магілеўшчыны, да якой адносіліся й настаўнікі школаў, больш абуралася згортваньнем дэмакратызацыі ў грамадзкім жыцьці, па мажлівасьці, змагалася за ейнае захаваньне:

«Інфармзводка на 01. 12. 1926 г. ... Падчас адкрытай акруговай канфэрэнцыі Рабасьветы член Праўленьня саюзу Рабасьветы прапанаваў ад імя фракцыі (камуністаў) саюзу свой сьпіс у члены Прэзыдыюма канфэрэнцыі. Настаўнікі ў зале захваляваліся й прагучалі галасы: «А дзе дэмакратызм? Самі назначым, каго патоэбна!» Найбольш крычаў шкраб Гарадзішчанскай школы Лявіцкі, яму ўторыў шкраб 10-ай школы г. Магілева Кулакоў. Настаўнік з Лупалаўскага раёну Бурбо, седзячы, сказаў: «Дэмакратызацыі для настаўнікаў ніколі ня будзе, бо партыя паўсюль і заўжды праводзіць, каго захоча, вось, напрыклад, у нас на раённай канфэрэнцыі падчас выбараў у мясткам кандыдатуру Буднікава-камуніста высунуў старшыня саюзу Рабасьветы Яфімаў. Настаўнікі не жадалі абіраць яго ў мясткам, дык Яфімаў ставіў ягоную кандыдатуру на галасаваньне ажно пяць разоў, – датуль, пакуль не атрымаў пажаданай колькасьці галасоў»... на акруговай канфэрэнцыі выступіў сакратар Бялыніцкага мясткама Бакенгаўз, які сказаў: «На XIV партзьезьдзе шмат гаварылася аб дэмакратызме, аб свабодных выбарах, а ў нас да сёньня яшчэ аўтаматычна праводзяць паводле сваіх сьпісаў кандыдатаў на выбарныя пасады. Гэтым у масы адбіраюць ініцыятыву й адбіваюць ахвоту свабодна праводзіць выбары»... пасьля заканчэньня канфэрэнцыі, падчас вячэры, настаўнікі казалі: «Не далі нам гаварыць, затыкалі нам раты, і мы самі баяліся гаварыць...»

Але не заўжды ў камуністаў было ўсё гладка. Яскравы прыклад –барацьба рабочых фабрыкі «Спартак» за сьвяткаваньне Вялікадня. Да 1930 г. «отдельными днями отдыха» ўважаўся шэраг найбольш шанаваных у асяродзьдзі працоўных-вернучых рэлігійных сьвятаў. Напрыканцы 20-ых, змагаючыся з рэлігійнымі пачуцьцямі людзей, улады спрабавалі скасаваць гэтыя дні адпачынку, і першым крокам была спроба пераносіць іх на іншыя дні:

«Інфармзводка на 05. 05. 1927 г. У красавіку 1927 г. на фабрыцы быў скліканы дэлегацкі сход. На павестцы дня адно пытаньне: пра сьвяткаваньне Вялікадня, – каб сьвяткаваньня не было і перанесьці яго на 3 траўня. Яшчэ да дэлегацкага сходу адбыўся раскол, большасьць членаў фабкама стаяла за сьвяткаваньне Вялікадня. Калі на дэлегацкім сходзе старшыня фабкама т. Несьцяровіч прапанаваў, каб перанесьці сьвяткаваньня Вялікадня на 3 траўня, у гэты час пачалі шумець, імкнучыся перашкодзіць т. Несьцяровічу гаварыць... Затым выступіў рабочы Сямён Сьвірыдэнка: «Калі наш фабкам большасьцю галасоў пастанавіў сьвяткаваць Вялікдзень, дык ня можа быць гаворкі пра ягонае несьвяткаваньне... магчыма, тут... вы й пастановіце не сьвяткаваць Вялікдзень, аднак мы ўсё адно на гэтым не супакоімся й склічам канфэрэнцыю, на якой пастановім так, як гэтага хочацца большасьці». Затым выступіў рабочы Сідараў Пётар: «Тут усе камуністы, мы ведаем, што яны нас толькі эксплятуюць ды жывуць за наш кошт, для нас усё роўна, як пастановіць дэлегацкі сход, а сьвяткаваць мы будзем і на працу на Вялікдзень ня пойдзем!» Прысутныя крычалі: «Правільна!» Далей выступіў рабочы Чарняўскі Хведар, які заявіў: «Мы ведаем камуністычныя, жыдоўскія задумы. Яны хочаць нас адлучыць ад нашае веры, але мы сябе пакрыўдзіць не дамо!..» (Вынік галасаваньня: за перанос – 25, супраць –19). Падняўся гвалт. Рабочы Сідараў П. і Галавешка, зьвярнуўшыся да рабочых, закрычалі: «Пойдземце адсюль, мы на гэтым не супакоімся!» І ўсе прысутныя на сходзе рабочыя пакінулі клюб... (Праз некалькі дзён адбылася канфэрэнцыя, але ў знак пратэсту супраць зьмены павесткі дня большасьць рабочых сыйшла й сарвала правядзеньне канфэрэнцыі)... сярод рабочых было шмат ахвотных працаваць у дзень Вялікадня, але ў зьвязку з тым, што гэтыя рабочыя былі нізкай кваліфікацыі... фабрыка не працавала 24 і 25 красавіка... на канфэрэнцыі выступіў рабочы-католік Сарока Станіслаў, які сказаў: «Мне асабіста ня важнае тое, што я адсьвяткаваў свой Вялікдзень, аднак мне важнае тое, калі Вялікдзень будуць сьвяткаваць усе веруючыя, як католікі, так і рускія. Нам дзеля гэтага трэба быць салідарнымі й ня слухаць розных... камуністаў».

Як бачым, ніякага «единодушия» ў ацэнцы дзеяньняў бальшавіцкіх уладаў не было, адсюль высновa – не было й «всеобщей поддержки». Нават у тыя, спрыяльныя для бальшавікоў гады, працягваўся і ўзброены супраціў, не зважаючы на сыстэматычныя заявы ў інфармацыйных зводках ДПУ, што «чырвонага бандытызму няма»:

«Сакрэтны даклад аб становішчы й дзейнасьці Магілеўскай акруговай міліцыі за ліпень-верасень 1926 г... Праяўленьні бандытызму, крымінальных шаек мелі месца ў Шклоўскім, Лупалаўскім, Быхаўскім, Жаравіцкім і Чачэвіцкім раёнах... затрыманая адна з шаек Дудкіна... акрамя гэтай шайкі на тэрыторыі акругі апэравала банда Агароднікава й... шайка Журомскага».

Згодна інфармзводкі на 21. 07. 1927 г. у вокругу, адбыўшы тэрмін пакараньня, зноў распачалі дзейнічаць «былыя члены банды Шаўчэнкі з Шклоўскага раёну». Атрады Агароднікава (зьліквідаваныя ў 1928 г.) і Шаўчэнкі (большая частка зьліквідаваная ў 1927-ым, рэшткі дзейнічалі да 1934 г.) згодна дадзеных Магілеўскага РК КП(б)Б аднаназначна расцэньваліся як контрарэвалюцыйныя.

Інфармацыйныя зводкі акруговых аддзелаў ДПУ, каторыя аналізавалі й сыстэматызавалі выказваньні рабочых, сялянаў і інтэлігенцыі, былі своеасаблівым «кандуітам»: зьбіралася інфармацыя, і калі ў 30-ыя гг. спатрэбілася – быў гатовы матар'ял для рэпрэсіяў. Напрыклад, жыхар вёскі Зацішша Шклоўскага раёну Гіро апублікаваў артыкул «Долго ли будут командывать мужиком?» у газеце «Магілёўскі селянін», у якім крытыкаваў мясцовыя ўлады за парушэньні правоў грамадзянаў падчас перавыбараў у сельсавет. Затым, абараняючы свой гонар, падаў у суд на члена Шклоўскага райвыканкама Валенціновіча. Суд прыйняў пастанову на карысьць Гіро. Аднак дзеяньні сьвядомага селяніна не маглі, на думку камуністычных уладаў, застацца непакаранымі, і паводле інфармзводкі на 21. 07. 1927 г. ён быў арыштаваны. Цікава было-б даведацца й пра далейшы лёс іншых, спамянёных у інфармзводках магілёўцаў.

**Ігар Пушкін**

# Беларусь павінная быць вольнай і незалежнай дзяржавай!

## *Зварот да беларусаў сьвету з нагоды 55-годзьдзя заканчэньня Другой сусьветнай вайны*



Сёлета, напачатку траўня, мінае 55 гадоў з дня перамогі над фашысцкай Германіяй, а 3 верасьня 2000 г. споўніцца гэткі самы тэрмін з дня заканчэньня Другой сусьветнай вайны, якая зьдзейсьненымі супраць чалавецтва злачынствамі й матар'яльнымі разбурэньнямі ня ведае сабе роўных. Ейнае адрозьненьне ад Першай сусьветнай вайны, галоўнай прычынай якой зьяўляліся эканамічныя супярэчнасьці паміж дзьвюма групоўкамі варагуючых дзяржаваў, палягае на тым, што яна пачалася са змовы двух дыктатарскіх рэжымаў, бальшавізму й фашызму, каторыя супернічалі за ўсталяваньне сусьветнага панаваньня і ўзьнікненьня якіх было «адрыжкаю» былых манархічных дыктатураў, што йснавалі ў Расеі ды Нямеччыне ажно да пачатку XX ст.

Сьвет, бадай, ня ведае большых сваімі памерамі й цынізмам злачынстваў супраць чалавецтва, чым падпісаньне 23 жніўня 1939 г. у Маскве Молатавым і Рыбэнтропам дамовы й пратаколаў аб супрацоўніцтве й падзеле Эўропы. Гэтыя дакументы й падняты таго дня ў Крамлі Сталіным келіх шампанскага за здароўе Гітлера, як за лідэра, якога нібыта падтрымлівае нямецкі народ, – былі, пасутнасьці, багаслаўленьнем аднаго дыктатара другім на развязваньне сусьветнай вайны. Ухваленьне нападу гітлераўцаў на Польшчу, увядзеньне войскаў у заходнія вобласьці Беларусі і Ўкраіны, правядзеньне сумеснага параду нямецкіх і савецкіх войскаў у Брэсьце, зьнішчэньне польскіх афіцэраў у Катыні, разьвязваньне вайны зь Фінляндыяй, захоп Бэсарабіі, акупацыя прыбалтыйскіх дзяржаваў, – вось далёка няпоўны пералік злачынстваў бальшавізму напачатку Другой сусьветнай вайны, узгодненых з фашызмам.

Пагрозу зьяўленьня на мапе сьвету дзьвюх экстрэмісцкіх палітычных плыняў недаацэньвалі шмат якія кіраўнікі й дзяржавы краінаў Заходняй Эўропы й ЗША. І гэта была адна з галоўных прычынаў мюнхенскіх уступкаў Гітлеру й вялага рэагаваньня на далейшыя злачынныя дзеяньні ў захопе новых тэрыторыяў абодвума дыктатарскімі рэжымамі. І толькі з нападам Германіі на Савецкі Саюз кіраўнікі многіх краінаў сьвету пайшлі на саюз з СССР, які, апынуўшыся перад сьмяротнаю небясьпекаю, супакоіў свае амбіцыі адносна ўстанаўленьня камуністычных парадкаў ва ўсім сьвеце. Не скарыліся перад фашызмам і прагрэсіўныя сілы ў акупаваных краінах, а таксама сапраўдныя патрыёты ў самой Нямеччыне й саюзных зь ёй дзяржавах. Перамога над Германіяй ды ейнымі саюзьнікамі падцьвердзіла бясспрэчную перавагу аб'яднаных сілаў прагрэсу над сіламі рэакцыі, трыюмф здаровага сэнсу над цемрашальствам.

Другая сусьветная вайна прынесла чалавецтву незьлічоныя страты: сотні мільёнаў забітых, калекаў і сіротаў, папялішчы й руіны замест тысячаў гарадоў і вёсак, адзінокія коміны й абпаленыя дрэвы на мейсцы заводаў і людзкіх сядзібаў. Беларусь з гэтай вайны выйшла як адзін з самых пацярпелых рэгіёнаў сьвету. У рэспубліцы загінуў кожны чацьверты, боло спалена ці зруйнавана больш як 200 гарадоў і пасёлкаў і больш як 9 тыс. вёсак, – у выніку каля 3 млн. людзей засталося бяз даху. Тысячы беларусаў былі вывезеныя ў Нямеччыну ў якасьці працоўнай сілы, а яшчэ больш – пакінулі Беларусь перад уваходам на ейную тэрыторыю Чырвонай Арміі з палітычных матываў (пазьней яны знайшлі прытулак на самых розных кантынэнтах зямнога шару). У паваенныя гады больш чым паўмільёна людзей выехала зь Беларусі з прычыны перасяленьня зьвязанага з новай беларуска-польскай мяжой, многія беларусы апынуліся ў савецкіх турмах і канцлягерах Сыбіры, Поўначы й Казахстану. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што загінула, пацярпела й пакінула Бацькаўшчыну самая адукаваная й патрыятычна настроеная частка жыхароў.

Юрыдычную ацэнку Другой сусьветнай вайне даў Нюрбэргскі працэс, на каторым былі асуджаныя ня толькі ваенныя злачынцы Трэцяга рэйху, але й сам фашызм як палітычная сыстэма й ідэалёгія. Упершыню ў гісторыі агрэсія была прызнаная цяжкім злачынствам супраць чалавецтва. Аднак гэта не было зробленае супраць другога дыктатарскага рэжыму. Карыстаючыся гэткай беспакаранасьцю, бальшавізм змог усталяваць у паваенныя гады свой рэжым яшчэ ў некалькіх дзяржавах сьвету й стварыць г. зв. «лягер сацыялізму», чым затрымаў разьвіцьцё многіх краінаў на цэлыя дзесяцігодзьдзі. І спатрэбіліся нямалыя намаганьні прагрэсыўнага чалавецтва, каб бальшавізм як палітычная сыстэма й ідэалёгія прадэманстраваў сваю відавочную непрыгоднасьць.

За паваенныя гады заходнія дзяржавы, былыя саюзьнікі ў барацьбе з фашызмам, пайшлі далёка наперад у разьвіцьці эканомікі й дэмакратыі, сталася цывілізаванай, дэмакратычнай і высока разьвітаю краінаю й пераможаная Нямеччына. Няма ўжо «сацыялістычнага лягеру», распаўся й сам Савецкі Саюз, апірышча экстрэмісцкай плыні бальшавізму. Пакутліва шукаюць свой шлях разьвіцьця новыя незалежныя дзяржавы, створаныя на ягонай тэрыторыі. І сама Расейская Фэдэрацыя, найбольш магутная на постсавецкай тэрыторыі дзяржава, робіць усё больш ухіл у бок дэмакратычнага разьвіцьця і наладжваньня адносінаў з заходнім сьветам.

Аднак, як паказалі падзеі апошніх гадоў, сьвет яшчэ ня выпрацаваў імунітэту супраць новага адраджэньня былых камуністычных дыктатураў. І найбольш слабою ў гэтым дачыненьні ў Эўропе аказалася Рэспубліка Беларусь. Рэцыдыў названых рэжымаў зьявіўся тут у выглядзе г. зв. «лукашызму», каторы ўяўляе зь сябе сумесь фашызму й бальшавізму, аздобленую махровым папулізмам. Верхавода рэжыму адкрыта заяўляў пра тое, што ягоным кумірам зьяўляецца Гітлер, а ягоныя партрэты на пэрыядычна праводзімых ягоным атачэньнем шоу выносяць разам з партрэтам Сталіна. У Беларусі пад патранажам Міністэрства ўнутраных справаў і КДБ створаныя базы дзеля падрыхтоўкі расейскіх фашыстоўскіх баявых атрадаў РНА.

Новая праява былых дыктатарскіх рэжымаў у Беларусі не змагла-б расквітнець гэтым буйным цьветам (ад якога тхне трупным смурodам адоленага 55 гадоў таму фашызму й пацярпелага ў 80-90 гг. мінулага стагодзьдзя катастрофу бальшавізму), каб яму не аказвалі актыўную падтрымку былыя кіраўнікі Кампартыі Беларусі ды многія расейскія палітыкі шавіністычнага кшталту й, перадусім, былыя й цяперашнія кіраўнікі КПРФ. А такая падтрымка яшчэ раз сьведчыць пра амаральнасьць і злачыннасьць бальшавізму як экстрэмісцкай палітычнай плыні й нялюдзкай ідэалёгіі й пра неабходнасьць ягонага публічнага асуджэньня міжнародным судом, як тое было зробленае з фашызмам у Нюрбэргу.

Апошнім часам ачольнік дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 г. і супраць якога ўзбуджаная крымінальная справа й вядзецца сьледзтва, – зрабіў новы выпад супраць свайго народу й народаў краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы: прапанаваў кіраўнікам Расейскай Фэдэрацыі стварыць на тэрыторыі Беларусі 300-тысячную вайсковую групоўку, што на практыцы азначае, па-сутнасьці, заклік да акупацыі рэспублікі замежным войскам і стварэньне ваеннага супрацьстаяньня ў рэгіёне.

Усе мы, беларусы, павінныя зразумець тую небясьпеку, каторая навісла над нашаю Радзімаю: небясьпеку страты незалежнасьці й дзяржаўнага сувэрэнітэту. Тым самым часам мы павінныя зразумець і тую простую ісьціну, што лёс Беларусі можа быць вырашаны, у рэшце рэшт, толькі самымі беларусамі. Нам могуць дапамагчы, але ніхто нам не дапаможа, калі мы не дапаможам сабе самыя. Дык заклікаю вас, шаноўныя суайчыньнікі, адкінуць усе дробныя разыходжаньні спаміж сабою ды аб'яднацца вакол Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, як адзінага легітымнага заканадаўчага й вышэйшага прадстаўнічага воргану, у імя сьвятое справы – абароны свабоды й незалежнасьці нашай Маці-Беларусі й пазбаўленьня яе ад дыктатарскай лукашысцкай брыдоты!

*Старшыня Вярхоўнага Савету РБ*
**Сямён Шарэцкі**



# Я ніколі ня быў і ня буду чыімсь стаўленікам

## Гутарка з Генэральным пракурорам РБ Рыгорам Пракаповічам

*У сярэдзіне красавіка ў Вільні адбылася чарговая сустрэча Старшыні ВС РБ сп. Сямёна Шарэцкага з Генэральным пракурорам РБ сп. Рыгорам Пракаповічам. Пасьля сустрэчы наш карэспандэнт зьвярнуўся да апошняга з шэрагам пытаньняў.*

**— Рыгор Пятровіч, чаму сёлета з Вашага боку не было зроблена ніводнага паведамленьня ў СМІ?**

— У сьнежні 1999 г. у адпаведнасьці з патрабаваньнямі крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (КПК РБ) мною ўзбуджаная крымінальная справа аб факце захопу ўлады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам (арт. 61 ч. 2 КПК РБ). Справа знаходзіцца ў працы сьледчага Генэральнай пракуратуры асабліва важных справаў, прозьвішча каторага, з прычыны вядомых абставінаў, назваць не магу. Вядзецца таксама сьледзтва і ў адносінах да прадстаўнікоў усіх трох галінаў улады: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Ход правядзеньня сьледзтва мною кантралюецца, аднак, з увагі на важнасьць гэтай крымінальнай справы, Генеральнаму пракурору й падначаленым яму асобам няма неабходнасьці часта выступаць у СМІ зь якімісь сэнсацыйнымі паведамленьнямі, каб не пашкодзіць аб'ектыўнасьці сьледзтва.

**— Пра што Вы сёньня размаўлялі зь Сямёнам Георгіевічам?**

— Тэмы нашых размоваў былі вельмі разнастайныя. Сёньня йшла гутарка й пра згаданую крымінальную справу. Аднак давайце ня будзем сьпяшацца. Яшчэ раз падкрэсьліваю, што закон гарантуе тайну сьледзтва, і мы будзем строга прытрымлівацца закону. Скажу толькі наступнае: азнаёміўшыся з матар'яламі сьледзтва, бачу, што некаторыя асобы зь дзяржаўных ворганаў спасылаюцца на тое, што парушаць законы іх хтосьці прымушае. З гісторыі вядомыя клясычныя прыклады на гэты конт, але я хачу сказаць, што дзеяньні, якія выконваліся асобамі й грамадзянамі паводле загадаў, тым больш паводле вусных указаньняў іхных начальнікаў, — не вызваляюць іх ад адказнасьці. У будучым гэта будзе разглядацца толькі як зьмякчальныя абставіны іхніх злачынстваў.

**— Пасада Генэральнага пракурора па-свойму няўдзячная. Кожная ўлада стараецца зрабіць яго «сваім». Як Вы да гэтага ставіцеся?**

— Даючы згоду на прызначэньне на пасаду (а абралі мяне 27 лістапада 1999 г.), я зыходзіў з таго, што пракурор павінен толькі выконваць Закон, а не парушаць яго, а таксама патрабаваць выкананьня Закону грамадзянамі й адказнымі дзяржаўнымі асобамі, не зьвяртаючы пры гэтым увагі на іхнія пасады, і ўзбуджаць справу ў адносінах кожнага палітыка ці афіцыйнай асобы, якія Закон парушаюць. Я ніколі ня быў і ня буду чыімсьці стаўленікам, а тым больш — палітыкаў. Такі мой адказ «добразычліўцам» і «народавольным» камэнтатарам.

**— Карупцыя ў Беларусі... Вашыя меркаваньні наконт гэтага?**

— Сказаць, што гэтая тэма цяпер і ў блізкай будучыні вельмі вострая для нашай рэспублікі, — значыць нічога не сказаць. Многія г. зв. «народныя абранцы», што сьпекулююць на гэтай тэме (прыгадайце міфічныя «скрынкі кампраматы»), змаглі дасягнуць вяршыняў улады. Але як толькі ўлада апынулася ў іхных руках, на свае абяцаньні забыліся. Таму я не хачу, каб і пра маю працу на пасадзе Генэральнага пракурора ў беларускім народзе склалася ўражаньне, што я гэткі самы, як яны. Сёньня ў мяне ўжо ёсьць шэраг матар'ялаў кантрольна-рэвізійных службаў, каторыя правяралі дзейнасьць адміністрацыі былога прэзыдэнта. Тым больш, што ў сучасны момант старонкі газэтаў стракацяцца паведамленьнямі пра карупцыю чыноўнікаў як ніжэйшага ўзроўню, гэтак і тых, хто знаходзіцца на вяршыні ўлады. Усё гэта будзе прадметам нашага абмеркаваньня, праверкі й прыняцця мераў у бліжэйшы час. Аднак і тут мы будзем строга прытрымлівацца Закону, а не ўпадабняцца тым былым адказным і ня вельмі адказным асобам, якія яшчэ да суда прызначалі меру пакараньня. Вызначыць віну й асудзіць чалавека можа толькі суд. Так робіцца ў цывілізаваным сьвеце, і так будзе ў Рэспубліцы Беларусь.

**— Наколькі я зразумеў, у хуткім часе будзе ўзбуджаная крымінальная справа аб карупцыі дзяржаўных асобаў?**

— Так. І, мабыць, не адна.

*Гутарыў* **Віктар Федаровіч**

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

## Рэзалюцыя Гейдэнсона: дзеяньні ў справе ўзнаўленьня дэмакратыі ў Беларусі

***Амаль незаўважнай, на наш погляд, і неасьветленай засталася важная для Беларусі міжнародная падзея: у сярэдзіне красавіка Палата прадстаўнікоў ЗША прагаласавала за Рэзалюцыю Гейдэнсона й такім чынам адназначна падтрымала ідэю дэмакратычнай сувэрэннай Беларусі, а таксама й нашую апазыцыю, што змагаецца за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Паколькі падтрымка з боку гэткай супэрдзяржавы, як Амэрыка, мае сёньня для Беларусі архіважнае значэньне, падамо ніжэй зь нязначнымі скаротамі матар'ялы датычныя Рэзалюцыі (запісы паседжаньня Палаты прадстаўнікоў). А перад тым заўважым, што Рэзалюцыя была прынятая ў Кангрэсе ЗША не без удалых зьнешнепалітычных захадаў Старшыні Вярхоўнага Савету РБ Сямёна Шарэцкага ды іншых нашых дэпутатаў.***

Вашынгтон, Вокруг Калюмбія, 13 красавіка 2000 г. Пасьля доўгіх месяцаў дзьвюхпартыйных і дзьвюхпалатных дэбатаў Камітэт у справах міжнародных дачыненьняў Палаты прадстаўнікоў ЗША прагаласаваў за Рэзалюцыю 304 Палаты прадстаўнікоў, складзеную сябрам Палаты прадстаўнікоў Сэмам Гейдэнсонам, другім па старшынстве сябрам Камітэту ў справе міжнародных дачыненьняў Палаты прадстаўнікоў ЗША ад дэмакратычнай партыі... Наступным крокам для Рэзалюцыі, што атрымала падтрымку 130 сяброў Камітэту, будзе ейнае абмяркаваньне на паседжаньні ўсёй Палаты прадстаўнікоў.

Рэзалюцыя 304... асуджае недапушчальнае парушэньне правоў чалавека ў Беларусі; заклікае рэжым беларускага Прэзыдэнта Лукашэнкі распачаць перамовы з апазыцыяй для правядзеньня свабодных і чэсных выбараў і зьвяртаецца з просьбаю да Расейскай Фэдэрацыі аб спыненьні фінансавай дапамогі рэжыму.

Прадстаўляючы гэтую Рэзалюцыю на разгляд кангрэсмэнаў, Гейдэнсон, чые бацькі па-бацьку эміґравалі ў ЗША зь Беларусі, меў дзьве мэты: прыцягнуць увагу да гэтае праблемы на міжнародным узроўні й паўплываць на рэжым Лукашэнкі, каб ён выканаў абяцаньне аб правядзеньні свабодных і чэсных парляманцкіх выбараў напрыканцы 1999 г. і прэзыдэнцкіх выбараў у 2001 г.

Сп. Гейдэнсон адзначыў, што ЗША неабходна паспрыяць хутчэйшаму адраджэньню дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь, бо гэта адпавядае амэрыканскім інтарэсам. «У нас ёсьць магчымасьць пасоўваць далей амэрыканскія ідэалы й, зьяўляючыся сусьветным лідэрам, спрыяць распаўсюджаньню дэмакратыі, прынцыпа панаваньня права й разьвіцьця рынкавай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь. Балазе, Беларусь займае стратэгічна важнае становішча ў Эўропе, мяжуючы з Польшчай, сябрам НАТА, на захадзе, З Украінай – на поўдні, Зь Літвой – на поўначы й з Расеяй – на ўсходзе», – дадаў кангрэсмэн.

Сп. Гейдэнсон падкрэсьліў, як важна аказваць падтрымку тым, хто працягвае пакутаваць ад нелегітымнага рэжыму... Лукашэнкі. Сярод іншага, Рэзалюцыя 304... заклікае Адміністрацыю паведаміць Кангрэсу пра захоўваньне правоў чалавека, дэмакратычныя рэформы, свабодныя выбары, незалежнасьць СМІ ды эканамічную лібэралізацыю Рэспублікі Беларусь.

Спасылаючыся на нядаўнія арышты ўдзельнікаў Марша Свабоды, сп. Гейдэнсон заявіў: «Рэспубліка Беларусь пераўтварылася ў аўтарытарную паліцыйную дзяржаву, дзе правы чалавека штодзённа парушаюцца, а свабода сходаў, аб'яднаньняў ды інфармацыі наогул ігнаруецца». Рэзалюцыя... асуджае арышты апазыцыі паводле палітычных матываў і патрабуе іх неадкладнага вызваленьня. Апроч гэтага, Рэзалюцыя выказвае занепакоенасьць у зьвязку з зьнікненьнем ключавых постацяў апазыцыі ды патрабуе правядзеньня стараннага расьледаваньня дадзеных фактаў.

Сп. Гейдэнсон таксама выказаў занепакоенасьць з нагоды адмаўленьня сп. Лукашэнкі пайсьці на канструктыўны дыялёг з апазыцыйнымі партыямі Беларусі. «Лукашэнка выкарыстаў тактыку замаруджаньня й хлусьні дзеля зрыву перамоўнага працэсу пад эгідай АБСЭ. Нягледзячы на публічныя абяцаньні аб зваротным, атмасфэра перасьледаў і страху, што йснуе сёньня ў Беларусі, выключае ўсялякую магчымасьць правядзеньня свабодных і чэсных выбараў у рэспубліцы сёлета», – заявіў кангрэсмэн...

Рэзалюцыя... патрабуе ад Прэзыдэнта Клінтана забясьпечыць падтрымку незалежных СМІ, захоўваньне правоў чалавека й пабудову грамадзянскай супольнасьці, а таксама пашырыць кантакты зь беларускай апазыцыяй і свабодны паток інфармацыі ў Рэспубліку Беларусь.

Апроч таго, Рэзалюцыя 304... асуджае пагадненьне аб ўтварэньні саюзнай дзяржавы, падпісанае ў сьнежні 1999 г. Расейскай Фэдэрацыяй і Прэзыдэнтам Лукашэнкам, бо яно парушае сувэрэнітэт Беларусі. Рэзалюцыя ставіць пад сумніў легітымнасьць падпісанага пагадненьня з той прычыны, што Прэзыдэнт Лукашэнка ня быў абраны дэмакратычным шляхам і, адпаведна, ня мае неабходных паўнамоцтваў для падпісаньня пагадненьня ад імя рэспублікі. «Гэтае пагадненьне ўшчамляе сувэрэнітэт Рэспублікі Беларусь і ня лічыцца з воляй беларускага народу», – адзначыў сп. Гейдэнсон... Да таго-ж, Рэзалюцыя абвяшчае гэтае пагадненьне як неадпавядаючае духу мэмарандуму пра гарантыі бясьпекі, падпісанага Прэзыдэнтам Барысам Ельцыным у сьнежні 1994 г. на будапэшцкім саміце кіраўнікоў дзяржаваў-сяброў АБСЭ. Рэзалюцыя 304... таксама заклікае Прэзыдэнта Клінтана падняць пытаньне пра фінансавую дапамогу рэжыму Лукашэнкі з боку РФ на самым высокім узроўні расейскага ўраду. Кангрэсмэн Гейдэнсон адзначыў, што фінансавая падтрымка з боку Расейскай Фэдэрацыі, асабліва ў выглядзе зьніжэньня цэнаў на энэргарэсурсы, дазваляе Лукашэнку ўтрымліваць шматлікую міліцыю і трымаць дзяржаўны кантроль над эканомікай. Рэзалюцыя патрабуе ад Адміністрацыі далажыць Кангрэсу аб зробленых ЗША захадах дзеля таго, каб перакanaць урад РФ перапыніць падтрымку лукашэнкаўскага рэжыму, а таксама пра стан расейска-беларускай інтэграцыі ў ваеннай сфэры.

ЛІТАРАТУРА

# ДЗЯЦІНСТВА ТЫРАНА

Тое, што ён зьявіўся, не было памылкаю ці якой-небудзь недарэчнасьцю. Яго чакалі, яго жадалі. Сьмелыя ды герaічныя вынішчаліся ды высылаліся. Іхняе мейсца занялі нашчадкі тых, хто вынішчаў ды высылаў. Ганьбавалася ўсё, што мела адметнасьць ці хаця-б нейкую прыналежнасьць да часу сьмелых і гераічных. Тыя, хто ацалеў, даўно забыліся, хто яны. Забыліся, што такое воля. І непрацяглы глыток свабоды не прымусіў іх успомніць. Хутчэй наадварот: ад гэтага глытку яны адчулі толькі раздражненьне, бо былу парушаны іхні звыклы рабскі стан! Маса, за рэдкім выключэньнем, чакала тырана...

Мне нічога невядома пра ягонае дзяцінства. Тое, што звычайна пішуць ужо пасьля таго, калі можна пісаць толькі тое, што можна – лухта. Ня можа быць праўдай тое, за чым нядрэмна сочаць. Між тым я выразна ўяўляю ягонае дзяцінства. Гэта было дзяцінства бяз бацькі. І яму самому захацелася стацца ўсеагульным «бацькам». Ён бачыў, як люблілі й каралі (калі трэба) ягоных аднагодкаў іхнія бацькі. Яму хацелася й таго й другога. Жаданьне з гадамі расло. Нарэшце надышоў час, калі яму захацелася, каб яго толькі любілі, а ён толькі караў.

Я ўпэўненая, што ён не паважае й сваю маці. Па-першае, яна не дала яму бацькі, а, значыць, прымусіла яго цярпець зьдзекі й зьнявагу. Байструкі заўсёды былі людзьмі ніжэйшага гатунку, а яму хацелася быць вышэй за ўсіх. Па-другое, яна была жанчынай простай, не вылучалася ні асаблівым розумам, ні вялікімі запатрабаваньнямі, таму не магла даць свайму гадунцу таго, чаго яму хацелася. Яна лічыла, што падаравала яму жыцьцё – і гэта дастаткова. Але падараванае яму жыцьцё ніколі яго незадавальняла. У глыбіні душы ён лічыў, што прырода памылілася, што ён павінен быў нарадзіцца шмат раней і ягоным бацькамі павінныя былі быць зусім іншыя людзі. І, нарэшце, тыран проста ня здольны нікога любіць і паважаць, нават сваіх бацькоў. Чалавек, каторы паважае меркаваньні й жаданьні іншага, тыранам ніколі ня зробіцца.

Не магу пазбыцца думкі, што я таксама ня дужа паважаю гэтую жанчыну, хоць ніводнага разу ў жыцьці яе ня бачыла й ня чула. І ўсё-ж я яе абвінавачваю, калі, наогул, можна абвінавачваць жанчыну праз тое, што яна нарадзіла. Мне здаецца, што гэта яна вінаватая ў тым, што ён ня любіць жанчынаў. Калі ён чарговым разам падымае келіх за жанчынаў (а робіць ён гэта часта й зь відавочным задавальненьнем), я, жанчына, не адчуваю ніякае радасьці. Ягонае фарысейства палохае мяне. І мне ўспамінаецца Нэрон, рымскі імпэратар, паэт і актор (актор!), каторы дзеля прыйсьця Музы (а яна, як вядома, дама капрызьлівая) мог спачатку спаліць свой горад, а затым напісаць оду гэтаму гораду. Няхай за маё здароўе п'е, хто заўгодна, толькі ня ён – не тыран!

Але-ж я трохі адыйшлася ад сваіх развагаў пра ягонае дзяцінства. Хутчэй за ўсё, у дзяцінстве ён быў ціхмяным і непрыкметным хлапчуком і нічым асаблівым не вылучаўся. Гэта задавальняла настаўнікаў, а павінна было насьцярожыць. Ён сядзеў дзесьці ў самым аддаленым кутку й сачыў за сваімі крыўдзіцелямі. А іх было поўна! І сярод настаўнікаў, каторыя не заўсёды разумелі яго (адсюль ягоная непрыязь, нават пагарда да інтэлігенцыі), і сярод аднакласьнікаў, каторыя праз дзіцячую непасрэднасьць маглі пакрыўдзіць і праз хвіліну пра ўсё забыць. Ён-жа памятаў усё! Ягоная памяць была запраграмаваная на тое, каб зьбіраць крыўды. Ён праз увесь час быў перакананы, што яго нехта хоча пакрыўдзіць, – і гэтае перакананьне сталася дамінуючым у ягоным характары. А яшчэ перакананьне ў тым, што крыўдзіцелям трэба помсьціць.

Так, ён артыст, і артыст нядрэнны. Не аднаго дня, напэўна, правёў ён каля люстэрка, уяўляючы сябе перад натоўпамі ўдзячных слухачоў. Ягоныя прамовы вытрыманыя ў стылі артыста-трагіка. Спачатку – ціхі, разважлівы ўступ. Ва ўступе яшчэ нічога страшнага няма, аднак менавіта таму адчуваецца –зараз будзе! Потым ён незаўважна пачынае выкрываць, прыводзіць факты, пераканаўчыя доказы віны. Ён ужо ня ціхі, не разважлівы. Ён гнеўны, бо ён – голас народу! Галоўнае тут не перабольшыць: і ён заўсёды ведае, калі трэба спыніцца. Гнеўныя тырады зьмяняюцца абяцаньнямі справядліва разабрацца, пакараць вінаватых (абавязкова пакараць!). Прамова зноў трапляе ў ціхае ручво. Выразна чуюцца боль і горыч, нават прыхаваная сьляза, з той прычыны, што так дрэнна, так цяжка жывецца ягонаму народу. Сыпяцца абяцаньні палепшыць ягоны дабрабыт, зноў пачынаюцца выкрываньні вінаватых. Толькі не яго самога! Заўсёды-ж можна некага знайсьці, каб зваліць усю віну на яго... Сінусоідныя тырады могуць доўжацца гадзінамі. Сапраўдны талент!

І яму вераць! Вераць у найлухцейшую лухту! Ён увесь час абяцае й не выконвае абяцаньняў. Гэта частка ягонай палітыкі. І чым больш ён абяцае, тым больш яму вераць. Дзеля таго, каб народ цябе любіў, і самому трэба імкнуцца быць падобным да самага простага з простых. Абяцаньні, асабліва першыя, павінныя быць таксама да банальнасьці простыя й даступныя. Напрыклад, паабяцаць даць кожнаму пэнсіянэру па тэлевізару – што можа быць прасьцей! Гэта-ж так рэальна й канкрэтна. І зусім ня дорага ў параўнаньні з неабходнасьцю нешта сапраўды зьмяніць у іхным жыцьці да лепшага. Ведама-ж, ніхто ніколі тых тэлевізараў не дачакаецца, але-ж такое абяцаньне на некаторы час забяспечыць яму падтрымку ды любоў пэўнай часткі ягонага народу.

Дзеля гэтага яму ў свойчас спатрэбіліся й гульні ў нацыяналізм. На самым пачатку свайго «ўзьлёту» ён быў «шчырым» прыхільнікам усяго нацыянальнага, нават сымбаляў. Аднак неўзабаве яны апынуліся па-за межамі закону. Мяне непакоіць думка, чаму ён гэтак непрыхавана ганіць усё нацыянальнае? І найперш мову? Я шукаю й не магу знайсьці ў гісторыі аналягаў, каб якісь іншы тыран так ненавідзеў мову свайго народу й гісторыю сваёй краіны. Які іншы тыран сцьвярджаў, што на мове народу, якім ён кіруе, нельга стварыць нічога вартага? Чаму яго так раздражняе родная мова?

Ён вырас у невялікай вёсцы, дзе жыло няшмат людзей і дзе кожны ведаў адзін аднаго. Тут не магло быць сакрэтаў ад суседзяў. І ўсе гаварылі не на «гарадзкой» мове – мове калянізатара – а на сваёй роднай, тутэйшай. І на гэтай мове яго ў дзяцінстве называлі «байструком». Гэта надзвычай крыўдзіла яго, змушала шукаць вінаватых у сваёй непаўнавартасьці. У рэшце рэшт ён абвінаваціў і тую мову, на якой ён чуў абразы ў свой бок. Атрымаўшы ўладу, ён пачаў помсьціць сваёй галоўнай крыўдзіцельцы.

Праблема «бацькоў і дзяцей» ёсьць старая як сьвет. Дзеці не заўсёды слухаюцца бацькоў. Надыходзіць час, калі не дапамагаюць ні абяцаньні, ні запалохваньні, ні, нават, рэпрэсіі. Вось тут мае мейсца спадзяваньне, што дзецям, нарэшце, абрыдне тыранія. Яны ўспомняць пра глыток свабоды й зноў захочаць яго глынуць.

Ён-жа, наш тыран, згубіўся ў часе. Ягоныя куміры – струпехлыя нябошчыкі. Ён шукае таго, чаго даўно ўжо няма й ня можа быць. Ён нагадвае пачвару зь дзіцячай казкі, каторая калісьці была страшнай і жудаснай, ды цяпераka сталася сьмешнай. Наогул, яго можна толькі шкадаваць, бо ўсе іншыя даўно павырасталі, пачалі займацца сваімі дарослымі справамі, а ён назаўжды застаўся ў сваім няшчасным дзяцінстве.

**Лілея Сазанавец**

# Лінгвацыд або выцісьненьне мовы

*Заканчэньне. Пачатак у NN 27-31.*

## 12. Дэмаграфічная палітыка

Дэмаграфічная палітыка адносна бел. этнасу праводзілася ў былым СССР згодна прынцыпу «Мой адрас ні дом і ні вуліца, мой адрас – Савецкі Саюз». Тыя, хто дамагаліся на рэфэрэндуме ў траўні 1995 г. ураўноўваньня на правох дзяржаўных рускай і беларускай моваў, спасылаліся на тое, што ў Беларусі, маўляў, жыве шмат расейцаў. Гэта сапраўды так. Расейцы пачалі масава перасяляцца ў Беларусь здавён. Цікава, што з канца XVII ст. яны ўцякалі туды, шукаючы прытулку ад рэлігійнага, але, галоўным чынам, ад дзяржаўнага ўціску царскіх уладаў. Паводле афіцыйных крыніцаў XVIII ст. з Расеі ў Беларусь перасялілася ня менш за 100 тыс. і ня больш за 1 млн. чалавек. Але вось што дзіўна. Згодна іншых крыніцаў не ўдалося знайсьці нават сьлядоў захаваньня расейскай адметнасьці гэтых уцекачоў (апрача ня надта шматлікіх пасяленьняў стараабрадцаў, значэньне каторых у перасяленьнях вельмі перабольшаная). Пра што гаворка? Хутчэй за ўсё расейскія перасяленцы надзвычай хутка асыміляваліся ў беларускім асяродзьдзі. Выглядае так, што расейская дзяржава не падтрымлівала іх ані адукацыяй, ані рэлігійнай пратэкцыяй. Масавыя перасяленьні з Расеі ў Беларусь амаль цалкам спыніліся пасьля іхняга «ўзьяднаньня» й аднавіліся толькі пры савецкай уладзе.

А пры царызме ў Беларусь ехала чынавецтва, сьвятары, настаўнікі, каторых прыахвочвала да гэтага царская ўлада, плоцячы ім за такую самую працу больш, чым мяйсцовым ураджэнцам. Разглядаючы вынікі працы гэтых «цывілізатараў» Беларусі, Сяргей Дубавец слушна пісаў: "Бачачы й ведаючы зараз характар гэтага нашэсьця, ці можна дапусьціць, што гэта было «вызваленьне» або «ўзьяднаньне» з Расеяй, як тлумачыла нам прапаганда? Ці можна казаць пра нейкія дабратворныя плады гэтага нашэсьця, як, увогуле, і ўсіх наступных адміністрацыйных нашэсьцяў зь «Вялікай зямлі»? Па-сутнасьці, адказам на гэтыя пытаньні й будзе тое, чаму мы ня сталі расейцамі. Таму, што замест расейскай натуры, мовы, культуры нам прапанаваліся натура, мова й культура чынавецтва. Мы, народ, пераўтвараліся не ў расейцаў, а ў дэнацыялізаваных урадоўцаў, убіраючы ў сябе гэтую псыхалёгію, гэты тып годнасьці й вартасьцяў. Яны ўваходзілі ў нас не замест нашай беларускай сутнасьці, а толькі пацясьніўшы яе, прыглушыўшы сваім аб'ёмам, сваёй масаю. Мы так і не адчулі ў сабе нічога расейскага».

У свой чарод расейскія ўлады перасялялі беларусаў па-за межы іхнай краіны. Пэўная частка дробнай шляхты была перасеrange пасьля паўстаньня 1831 г. у Херсонскую губэрню й на Паўночны Каўказ. Наступную «партыю» шляхты й аднадворцаў перасялілі пасьля тлумленьня чарговага паўстаньня 1863 г. Улады заахвочвалі перасяленьне беларускага сялянства ў Сыбір і на Далёкі Ўсход напачатку XX ст.

Савецкая ўлада не адмовілася ад гэтае практыкі. У ходзе рэпрэсіяў падчас калектывізацыі зь Беларусі было выселена шмат людзей. Тое самае паўтарылася ў 1940-41 гг. пасьля прыяднаньня да СССР Заходняй Беларусі. Беларусаў высялялі з родных мясьцінаў пад выглядам вярбоўкі на капальні й руднікі, на новабудоўлі, лесапавалы ў тайзе, асваеньне цалінных земляў і г. д.

Усё гэта прывяло да зьмяненьня суадносінаў у Беларусі між беларусамі й расейцамі, якія пад рознымі прычынамі прыцягвалі да працы ў Беларусі. За гады савецкае ўлады колькасьць расейцаў у Беларусі павялічалася да 1 млн. 300 тыс. чалавек. І ўсё гэта абгрунтоўвалася патрабаваньнямі забясьпечыць расейцаў у Беларусі адпаведнымі ўмовамі дзеля расейскамоўнай адукацыі, друку, СМІ.

## 13. Зьнішчэньне мовазнаўцаў

Сярод іншых спосабаў лінгвацыду можна назваць пераўтварэньне мовазнаўства ў паслухмяную прыладу русыфікацыі. Дзеля гэтага мовазнаўцаў-беларусістаў зьнішчалі фізычна. Адбывалася гэта з сталіноўскіх часоў. Тады былі растраляныя аўтар «Беларускай граматыкі для школ» Браніслаў Тарашкевіч, аўтар «Практычнай граматы і беларускай мовы» Язэп Лёсік, складальнік расейска-беларускага й беларуска-расейскага слоўнікаў Максім Гарэцкі, складальнік аналягічных слоўнікаў Сьцяпан Некрашэвіч. Быў арыштаваны й сааўтар Гарэцкага й Некрашэвіча ў складаньні слоўнікаў, расеец паводле паходжаньня, Мікола Байкоў. Быў рэпрасаваны аўтар «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны» Іван Бялькевіч. Шмат іншых беларусазнаўцаў загінула ад куль чырвоных катаў.

Іхняе мейсца заступілі мовазнаўцы, каторыя змушаныя былі прапагандаваць «узбагачэньне» бел. мовы за кошт расейскай, абгрунтоўваючы гэта тым, што апошняя «па свайму багацьцю, па грандыёзнаму значэньню тых каштоўнасцяў, што створаны на гэтай мове, займае адно з першых месц сярод вядучых моваў свету» (Н. І. Крукоўскі. «Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову». Менск, 1958).

## На заканчэньне

Пералічыць усе спосабы лінгвацыду даволі цяжка. Ёсьць і іншыя спосабы, але на першы раз і прыгаданых вышэй, здаецца, досыць, каб зразумець, што мэханізм русыфікацыі працаваў і працуе на поўніцу дзеля таго, каб не было чаго чытаць, а ў нашыя часы –яшчэ й слухаць, і глядзець па-беларуску. Мэханізм гэты працуе, як мы пабачылі, цынічна й нахабна ўжо ці ня два з гакам стагодзьдзі, і працуе з посьпехам.

Гісторыя лінгвацыду ў дачыненьні да бел. мовы адназначна сьведчыць пра тое, што адзіным і найбольш трывалым чыньнікам супраць яго ёсьць дзяржаўнасьць мовы й нацыі. Супрацьстаяць адкрытаму або прыхаванаму лінгвацыду можна толькі маючы пэўную сыстэму ведаў і ўсьведамленьне таго, чым зьяўляецца мова, паводле якіх законаў яна жыве, якая ейная роля ў жыцьці чалавека, нацыі.

**Валяньцін Грыцкевіч**

# Расея — эпіцэнтар разбуральных сілаў сусьветнай супольнасьці

*Працяг. Пачатак у N 31*

### 2. ТЭРАРЫЗМ – БАЗАВАЯ ІДЭАЛЁГІЯ РАСЕЙСКАЙ ІМПЭРЫІ

Вялікадзяржаўны рускі шавінізм Расейскай імпэрыі, стрыжнем якога заўжды была ідэалёгія дзяржаўнага тэрарызму, запусьціў мэханізм сама-разбурэньня рускай нацыі, рускай дзяржавы. Гэта лягічны вынік супярэчнасьці ідэалёгіі дзяржаўнага тэрарызму прынцыпу самаарган-ізацыі матэрыі. Руская шавіністычная эліта, не зважаючы на страты рускай нацыі, пашырала тэрыторыю імпэрыі ва ўсе бакі сьвету. Непрыкметна, але стала йшло аслабленьне, дэнацыялізацыя й дэградацыя рускай нацыі, станавога хрыбта імпэрыі. Нават у асяродзьдзі палітычнай эліты зьявіліся людзі, каторыя ўжо не індэтыфікавалі сябе з канкрэтнай нацыяй. Яны абыякава ставіліся да ўсіх народаў імпэрыі, іх цікавіў толькі асабісты дабрабыт, які залежыў ад моцы Расейскай імпэрыі. Таму яны гучней іншых славілі веліч рускага народу, культуру, мову, хоць усё гэта іх зусім не хвалявала.

Розьніца паміж рускім і рускамоўным шавінізмам пакуль што не адчуваецца. Шавіністы абодвух напрамкаў стаяць на адных пазыцыях, не заўважаюць аслабленьня, дэградацыі рускай нацыі й з ахвотай развважаюць аб вялікім гістарычным значэньні Расеі. Яны дагэтуль падобна да В. Г. Бялінскага «клікушнічаюць»: «Зайздро-сьцім унукам і праўнукам нашым, каторым наканавана бачыць Расею ў 1940 г. на чале адукаванага сьвету, якая дае законы ў навуцы й мастацтве й прыймае поўную глыбокай пашаны даніну ад усяго адукаванага чалавецтва». І, як вынік, усе народы Расеі павінныя выхоўвацца на вялікарускай культуры: «И гордый внук славян, и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык» (А. С. Пушкін).

Аднак, калі дзеяньні людзей супярэчаць законам прыроды, у соцыюме зьяўляюцца разбуральныя сілы. Ідэалёгія тэрарызму на выснове рускага шавінізму, выклікала такія разбуральныя сілы, што прывялі да фізычнага зьнішчэньня імпэрскай эліты й, практычна, абезгаловілі рускую нацыю. Пры гэтым сама нацыя зьнішчала свой інтэлект. А на мейсцы разбуранай Расейскай імпэрыі вырасла новая, яшчэ больш агідная бальшавіцкая імпэрыя з той самай ідэалёгіяй тэрарызму.

### 3. ТЭРАРЫЗМ – СТРЫЖАНЬ ІДЭАЛЁГІІ КАМУНІСТЫЧНАЙ ІМПЭРЫІ

Падмуркам ідэалёгіі камунізму на прасторах былой Расейскай імпэрыі афіцыйна сталася тэорыя клясавай барацьбы ды прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму. Менавіта гэтыя палажэньні камуністычнае ідэалёгіі павінныя былі забясьпечыць камунізму панаваньне ва ўсім сьвеце. Праваднікамі гэтых палажэньняў у жыцьцё зноў зрабілася руская нацыя, абезгалоўленая, зьнявечаная шматвяковым шавіністычным выхаваньнем. На чале яе хутка сфармавалася новая інтэрнацыянальная шаві-ністычная рускамоўная эліта новай пануючай клясы – кляса каму-начыноўнікаў, самага жахлівага разбуральніка чалавечай цыві-лізацыі.

Дэнацыялізаваная рускамоўная эліта справядліва бачыла (і бачыць) у нацыях свайго самага небясьпечнага ворага, якога трэба зьнішчыць. Інакш нацыі не дазваляюць камуначынавецтву безпакарана арыентавацца на ўсёдазволенасьць і бескантрольна распараджацца нацыянальным багацьцем. З гэтай прычыны супраць нацыяў была распачатая бязьлітасная вайна. Дзеля гэтага на поўніцу быў выкарыстаны рускі шавінізм і ягоны носьбіт –рускія. Пад словаблудзтва аб велічы рускага народу, аб ягонай таленавітасьці, аб тым, што ён абаронца ўсіх зьняважаных і пакрыўджаных, – руская нацыя, як таран, напрацягу 70 гадоў разбурала каля 200 нацыяў і народнасьцяў бальшавіцкай імпэрыі, разбуралася сама й неперарыўна, у нарастаючай колькасьці, выхоўвала маргінальных і нават амаральных носьбітаў рускамоўнага шавінізму.

Законы прыроды тымчасам дзейнічалі несупынна, і разбуральныя сілы ўзрасталі. Камуністычная імпэрыя, ейная эліта ўзмоцнена рыхтавалася да ўстанаўленьня свайго панаваньня ва ўсім сьвеце, распачала II Сусьветную вайну, пасьля каторай на савецкіх штыхах збудавалі «сацыялістычны лягер». Але на гэтым запушчаны рускамоўнымі шавіністамі махавік не спыніўся. Пачалася апошняя стадыя дэкалянізацыі народаў ва ўсім сьвеце й рускамоўны шавінізм імкнуўся выкарыстаць гэта дзеля сваіх інтарэсаў. Успыхнулі лякальныя вызваленчыя войны, – і ў кожнай зь іх наўпрост ці ўскосна удзельнічаў Савецкі Саюз: прысутнасьцю войскаў, пастаўкамі зброі, саветнікамі й, натуральна, заўжды спэцслужбамі. (З 1945 па 1990 г. СССР браў удзел у 52 лякальных войнах). Асноўным выканаўцам гэтай бруднай працы працягвала заставацца руская нацыя, дэградацыя якой ішла паскоранымі тэмпамі, так, што яна была ўжо ня ў сілах выконваць усе заказы рускамоўнай палітычнай эліты. Успыхнулі паўстаньні ў Вэнгрыі, выйшлі на вуліцы працоўныя ГДР, забурліла Чэхаславаччына, Польшча. Тымчасам верная ідэалёгіі тэрарызму рускамоўная эліта ўцягнула Савецкі Саюз у вайну з Аўганістанам, спадзеючыся гэткім чынам умацаваць сваё хісткае становішча. Але Аўганістан добрасумленна перамалоў генафонды рускай, украінскай ды беларускай нацыяў. Менавіта яны зьяўляліся «гарматным мясам» у аўганскай бойні. А каб простым салдатам было лягчэй паміраць, іх называлі не тэрарыстамі, а інтэрнацыяналістамі.

Палітыка міжнароднага тэрарызму, выканаўцам якой безумоўна выступіла руская нацыя зь ейным бытавым шавінізмам, пачала пажынаць плён сваіх разбурэньняў. Прыпыніў існаваньне «лягер сацыялізму» й ягоны ваенны блёк. Краіны, вырваўшыся з-пад дыктату Масквы, адмовіліся ад ідэалёгіі камунізму й пачалі ствараць сваю нацыянальную буржуазію, эліту, займаць свае нішы ў сусьветнай супольнасьці. Як мыльная бурбалка лопнула й сама камуністычная імпэрыя. Рэспублікі Балтыі, Каўказа, Азіі, Украіна, Малдова, пераадольваючы жорсткі супраціў рускамоўнага шавінізму, сталі на шлях нацыянальнага адраджэньня. Адраджэньне гэтае й дасюль ідзе пад акампанымэнт пагрозаў, паклёпаў і прычытаньняў Масквы, якая раптам пачала клапаціцца аб правах рускамоўнага (ня рускага, ня ўкраінскага, не беларускага ды інш.) насельніцтва ў нованароджаных краінах, хаця ў самай Расеі лёс такога самага насельніцтва яе зусім не цікавіць. Менавіта ў Расейскай Фэдэрацыі, ды яшчэ ў Беларусі, рускамоўная палітычная эліта пануючага камуначынавецтва ня толькі зьберагла свае пазыцыі, але і ўзмацніла іх, прыўласьціўшы ўсе багацьці дзяржаваў.

**Валеры Арцішэўскі**

*Працяг у наступным нумары*

## *Рэзалюцыя* аб становішчы ў Беларусі

*Балтыйская Асамблея,*

**улічваючы** факты, што сьведчаць пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі;

**падкрэсьліваючы,** што парушэньні правоў чалавека ў Беларусі зьвязаныя з абмяжаваньнем палітычных свабодаў людзей: гвалт над мірнымі дэманстрацыямі, перасьлед апазыцыйных палітыкаў, санкцыі супраць незалежнай прэсы, ігнараваньне дэмакратычных выбарчых працэдураў;

**заклікае** ўлады Беларусі да стварэньня ўмоваў дзеля адкрытага й шчырага дыялёгу ў беларускім грамадзтве з мэтай забясьпечыць разьвіцьцё дэмакратыі й спыненьня самаволі ўладаў;

**заклікае** міжнародныя арганізацыі, у тым ліку ААН, АБСЭ ды Савет Эўропы, зьвярнуць увагу на праблемы ў сфэры правоў чалавека й забясьпечаньня палітычных свабодаў у Беларусі.

### «Казюк» у Італіі

У газэце «Рунь» N30 быў зьмешчаны цікавы гістарычны артыкул Мар'яна Пецюкевіча пра «Казюка» ў Вільні як сьвята народнага промыслу. Запазнаўшыся са зьместам артыкула, я ўспомніў, што гэтае сьвята ўшанавалі віленчукі ў Італіі ў мястэчку Мадэна 4 сакавіка 1946 году. Exаць на «Казюка» ў Вільню-Мадэну заклікалі афішы ў радыюсе сотні кілямэтраў. «Казюка» ладзіла Віленская брыгада 5-ай Крэсовай дывізіі ген. Н. Суліка. Арганізатары стараліся надаць Мадэне выгляд Вільні, і таму шмат дзе замест назвы «Мадэна» быў зьмешчаны назоў «Вільня». Тое самае было зробленае й зь некаторымі вуліцамі мястэчка, дзе віднеліся надпісы: Вострабрамская, Міцкевіча, Антакальская, Новая Пагулянка, Пляц Лукіскі (па-польску – Ю. В.). На адной вуліцы зрабілі мініятурную «Вострую Браму», перад якой адбылася багаслужба, што папярэдзіла абраднасьць «Казюка». Каб надаць «Казюку» традыцыйны выгляд, быў арганізаваны кірмаш драўляных гаспадарчых рэчаў, рознага печыва, абаранкаў, сувэніраў, а ў «Бары цёткі Альбіны», замест Альбіны, дзядзька прадаваў італійскае віно. Грала польская вайсковая аркестра, а ёй наўзамен – італійская. Выступалі артысты, праводзіліся розныя гульні, лятарэя, – і ўсё гэта нагадвала жаўнэрам-віленчукам іхняга «Казюка» ў Вільні. Для мяйсцовых-жа жыхароў цікава было паглядзець на нешта незнаёмае, але цікавае й забаўнае.

Арганізатарам «Казюка» хадзіла ня толькі ўшанаваць вялікае віленскае сьвята, а й паказаць італійцам польскія традыцыі, каторыя, зразумела, нічога супольнага з «Казюком» ня мелі. Па мястэчковых вуліцах маршыравалі гуралі, кашубы, палешукі, – і ўсе яны былі ў сваіх народных строях, а некаторыя польскія жаўнеры мелі на сабе старадаўнюю польскую ўніформу... Хоць палякі надалі «Казюку» ў Мадэне польскі каларыт, аднак гэтае сьвята ня ёсьць традыцыяй выключна польскім, а найбольш беларуска-літоўскім і ўсіх іншых народнасьцяў Віленскага Краю, прадстаўнікі каторых эхалі ў гэты дзень у Вільню ды везьлі з сабой нешта прадаць-купіць або проста весела прабавіць час.

Юры Весялкоўскі
*Лендан*

### Пра ваенныя перспэктывы Беларусі

Ахвяры ІІ Сусьветнай вайны, практычна бессэнсоўнай, былі жахліва вялікія. Беларускі народ заплаціў за яе ў адносінах да агульнай колькасьці насельніцтва самую высокую цану – і ня толькі колькасьцю зьнішчаных людзей, але й паводле сваіх псыхалягічных генафондных вынікаў, каторыя яшчэ ня вывучаныя. Таму, зыходзячы з наяўных геапалітычных ды гістарычных рэаліяў, геаграфічнага месцазнаходжаньня й далейшых пэрспэктываў, – Беларусі неабходны дзейсны, гарантаваны ўсімі краінамі сьвету ваенны нэўтралітэт. Каб ніколі больш ваенны сьмерч не праносіўся па нашай зямлі, каб Беларусь ніколі больш не была ніякім жывым буфэрам ні для «старэйшых», ні для «малодшых», ні для ўсходніх, ні для заходніх братоў. Беларусь ня мае нідзе й ніякіх патэнцыяльных ворагаў. Пры ўсёй павазе да рускага народу нам непатрэбны дагавор з Расеяй аб сумеснай абароне. Ягоным вынікам будзе ўрэшце рэшт уцягваньне нашае краіны ў расейскія ваенныя канфлікты.

Яшчэ больш неразумнае для нас ёсьць стварэньне адзінай расейска-беларускай дзяржавы зь любой назвай (РусаБелія, Саюзная ды інш.), чаго так упарта дамагаецца рэнэгат Лукашэнка. У такой «дзяржаве», пры суадносінах расейцаў і беларусаў у прапорцыі 15:1, ня можа быць і гаворкі пра раўнапраўе гіганта з маленькім народам, пра жаданьне шмат у чым неарганізаванай махіны эканамічна няньчыцца з намі й стварацьякіясь ільготы, каб беларусы ня ўдзельнічалі ў гістарычна створаных Расеяй бясконцых сілавых супрацьстаяньнях. Будучыня Беларусі толькі й толькі ў ейнай дзяржаўнай самастойнасьці, арыентаванай на ўзаемавыгаднае рознабаковае супрацоўніцтва з усім цывілізаваным сьветам пры захаваньні разумных роднасных сувязяў з усімі братэрскімі народамі. Таму з пазыцыі менавіта гэтае аксыёмы й павінен весьціся дыялёг апазыцыйных сілаў зь цяперашнімі кіраўнікамі краіны. Усё іншае – проста гульня ў самападман, гульня, каторую гісторыя нікому не даруе.

Аляксей Саламонаў
*Менск*

### Выйшла з друку

Чарговая публікатка «Аляксандар Уласаў» выдавецтва «Рунь» (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). У ёй Лявон Луцкевіч і Галіна Войцік распавядаюць пра аднаго з пачынальнікаў бел. адраджэньня пачатку XX ст., шматгадовага рэдактара легендарнай «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава.




### Цагліна з Параф'янава

Докшыцкага раёну ляжыць на стале ў Сэма (Сямёна) Гейдэнсона, чольніка Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША. Як яна там апынулася? Гэта вельмі цікавая гісторыя, хоць і трагічная. У гады нямецкай акупацыі ў Параф'янаве адбывалася зьнішчэньне жыдоўскага насельніцтва. Мяйсцовыя жыхары з жахам назіралі, як распраўляюцца з безабароннымі людзьмі эсэсаўскія каты ды іхныя памагатыя, докшыцкія паліцаі на чале з Камулькам. (Паводле аповядаў маёй маці гэта быў кат, зьвер. Пасьля вайны яго знайшлі ў Польшчы, прывезьлі ў Менск, у 1956 г. асудзілі да сьмяротнай казьні). Непасрэдна докшыцкіх жыдоў растрэльвалі два эсэсаўцы, каторыя прыбылі з Глыбокага, а паліцаі рабілі ачапленьне й канваяваньне. Перад растрэлам адной маладой жыдоўцы далі слова, і яна заклікала годна прыняць пакутніцкую сьмерць і гаварыла, што прыйдзе час, калі забойцы будуць асуджаныя. У гэты момант два мужчыны кінуліся бегчы ў бок лесу. І аднаму зь іх удалося ўцячы. Астатніх растралялі й засыпалі зямлёй. Трое суднаў зямля «дыхала», як грудзі... Аднак ня ўсіх жыдоў зьнішчылі фашысты ў Параф'янаве. Некаторыя з дапамогай мяйсцовых жыхароў засталіся ў жывых. Калі параф'янаўскіх жыдоў сагналі ў гета, наша сям'я дапамагала ім прадуктамі, а мая сястра Ромця, яшчэ дзяўчынка, нелегальна прабіралася туды, каб аддаць тыя прадукты. Гэтак і сям'я Станкевічаў зь вёскі Целяшы, што непадалёку ад Параф'янава, хавала й выратавала ад сьмерці двух братоў Гейдэнсонаў. Летась родныя пэнаты бацькі й дзядзькі наведаў Сэм Гейдэнсон. Ён яшчэ ў канцы 80-ых хацеў прыехаць у Параф'янава, каб пакланіцца бацькоўскаму дому, аднак тадышняя савецкая ўлада не дазволіла яму гэтага зрабіць. А цяпер, за тры месяцы да прыезда амэрыканскага кангрэсмэна (!), дома ня стала – ён згарэў. І Сэм Гейдэнсон убачыў толькі папялішча... На ўспамін аб бацькоўскім гняздзе й роднай зямлі сп. Гейдэнсон узяў з сабой у Амэрыку цагліну.

Юры Гіль
*Вільня*

### «Сябры» гуртуюцца

2 чэрвеня ў Палацы чыгуначнікаў г. Калінінграда прайшла Ўстаноўчая канфэрэнцыя з нагоды стварэньня «Калининградского землячества белоруссов». Гэтая падзея сталася плёнам цэлага году працы мяйсцовага аддзяленьня пасольства РБ у РФ ды чыноўнікаў абласной адміністрацыі беларускага паходжаньня. Канфэрэнцыя, на якой было каля 600 прысутных, адбылася, як кажуць, у лепшых партыйных традыцыях нядаўняга часу: дзеткі з кветкамі, курсанты, аркестар, кранальнае аднадушша, ды процьма чыноўнікаў і былых партфункцыянэраў, прывезеных у «дабраахвотна-прымусовым парадку». Двухмоўнае вітаньне, якім была шпрыгожаная заля, выглядала бездакорна. (Падчас апошняга візыту «бацькі» ў Калінінград над горадам лунала гасла «Витаем цебэ Беларусь!») Пад гукі гімнаў былі зачытаныя прывітаньні: ад пасольства РБ у РФ, Дзяржкамітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў РБ ды суполак зь Беластоку, Летувы й Даўгаўпілсу. Хутчэйшае паяднаньне Беларусі й Расеі, настальгічныя ўспаміны, небясьпека з боку ворагаў разам з дэфірамбамі самаму «мужнаму й чэснаму» чалавеку на зямным шары, – такі быў зьмест большасьці прамоваў на канфэрэнцыі. Мяйсцовы пісьменьнік, гаспадзін Крупенін, параіў нават стварыць станоўчыя літаратурныя вобраза на прыкладзе такіх асобаў, як губэрнатар Л. Гарбенка ды А. Лукашэнка. З вуснаў палымяных прамоўцаў гучала толькі адно беларускае слова «сябры» – усё астатняе было па-расейску. Пасьля галасаваньняў быў прыйняты статут новасьпечанай «аўтаноміі», куды ўвайшоў увесь «беларускі бамонд» вобласьці. Старшынём праўленьня абраны Есіф Грэчка, былы кіраўнік Упраўленьня культуры вобласьці. Згодна Закону РФ «Аб нацыянальнай культурнай аўтаноміі» яе могуць зарэгістраваць тры юрыдычныя асобы – арганізацыі-заснавальнікі. У дадзеным выпадку такімі былі: «Славянская акадэмія», Саюз «Расія-Беларусь» ды яшчэ нейкі «Саюз па мацаванні эканамічных сувязей з РБ». Мяйсцовае Рэгіянальнае Таварыства Беларускай Культуры ад уваходжаньня ў тую аўтаномію ў якасьці заснавальніка адмовілася.

Адам Каралявецкі
*Менск*

## *З Купальлем!*


Здымак Дзяніса Раманюка

**Алег Аблажэй**

# Эдэна, дачка Дня й Ночы

*Крыстыне, дачцэ сьвятла*


*Малюнак Алега Аблажэя*

Даўным даўно, дзесьці вельмі далёка, дзе пачынаецца сьвет —а можа там, дзе ён канчаецца — жыла адна маладзюткая панна. Незвычайная гэта была дзяўчына, і жыла яна ў незвычайным палацы, бо быў ён цалкам з празрыстага крышталю, адным словам, меў толькі вокны й ніводных дзьвярэй. Дзьверы, наогул, не былі там патрэбныя, бо тая панна была ня кімсь іншым, а дачкою Дня й Ночы. А, як вядома, і Дзень і Ноч заходзяць у жытло толькі цераз вокны.

Дзень-бацька й Ноч-матка вельмі кахалі сваю дачку й клапаціліся пра ейны лёс. Палац пабудавалі найпякнейшы, іншага такога не было на сьвеце. Усё было ў тым палацы, што патрэбна для жыцьця — а як-жа інакш, калі адзіная жыхарка не магла стуль выйсьці?

Вялікае было каханьне Дня-бацькі й Ночы-маткі да адзінай дачкі, затое не было згоды паміж бацькамі. Цэлы час спрачаліся й сварыліся паміж сабою, бо калі адзін мовіў пра нешта, што яно белае, дык другі называў тое чорным, і наадварот. Вялікае шчасьце, што ўдалося неяк дайсьці да згоды наконт імені дачкі. Пасьля доўгіх дыскусіяў пастанавілі даць ёй такое ймя, у якім былі-б літары зь іменаў абоіх бацькоў. Таму, уласна, панна, жыхарка крышталёвага палацу, мела ймя Эдэна.

Эдэна вельмі кахала і бацьку, і матку, і моцна гаравала, што яны сварыліся паміж сабою ды так, што пастанавілі жыць паасобку. І калі бацька наведваў дачку, не было там маткі, і наадварот. Эдэна-ж хацела быць добрай як для бацькі, гэтак і для маткі. Таму нават сукню на сабе мела зь левага боку чорную, як ноч, правая-ж палова была белая, як дзень. Дый валасы ейныя былі з аднаго боку прабору цёмныя, як начное неба, з другога — ясныя, як дзённае сьвятло.

Дачка Дня й Ночы ня мела нічога да работы, бо бацька з маткай мелі працавітых слугаў, каторыя рабілі ўсё, што трэба. Дзень-бацька прысылаў сонца, Ноч-матка — месяц, і ні сонцу, ні месяцу непатрэбныя былі дзьверы, каб патрапіць у палац. Слугі Дня й Ночы вельмі кахалі Эдэну, сонца сагравала сваімі промнямі крышталёвы палац, месяц-жа сыпаваў калыханкі на сон, а калі Эдэна ўжо спала, акрываў увесь палац цёплай хмаркаю.

Усё было бачнае навокал праз незьлічоныя вокны палацу. Бачыла Эдэна, як аднекуль з-за небакраю выпырхваюць якіясь напаўпразрыстыя істоты ды імкнуць да неба. Патлумачыла Ноч-матка, што гэта чалавечая крылатая маладосьць пакідае мужчынаў і жанчынаў ды вандруе да зорак. І бачыла Эдэна, як кожная з тых крылатых істотаў — адна па доўгім, другая па кароткім лёце —прылятае кожная да сваёй зоркі й, ухапіўшы яе, падае долу, губляючы крылы, і зьнікае з вачэй назаўсёды. Гэта азначала, як паясьніла Ноч-матка, што для кагось прабіла гадзіна растаньня з гэтым сьветам, і што зорка ягоная паляцела кудысь далёка, да іншага сьвету. Не распавяла аднак, ці лепшы той іншасьвет, ці горшы ад нашага. Абавязкам-жа Ночы было расьсяваньне новых зорак узамен зьніклых.

Бачыла Эдэна са свайго крышталёвага палацу, што дзесьці далёка расьцьвітаюць цудоўныя кветкі: адныя кветкі, буйныя й пышныя, вырастаюць ажно да неба, іншыя, наадварот, драбнюткія й кволыя. А часам бывала так, што нечакана выбухаў полымем цэлы квітучы куст — і па некалькіх хвілях заставаліся толькі вартыя жалю асмаленыя куксы, або й зусім нічога не заставалася. А часам некаторыя кветкі дратавала нечая нябачная, але жахлівая нага, і яны ўжо ніколі не вярталіся да жыцьця... Тлумачыла Ноч-матка, што ніякія гэта ня кветкі, а каханьне людзкое так квітнее, і кожнае мае сваё жыцьцё, кароткае ці доўгае, і свой лёс, шчасьлівы ці горкі. Апавядала Эдэне Ноч-матка, што хаця каханьне з выгляду ёсьць крохкае й кволае, як кветка, а ўсё-ж вельмі магутнае, а можа нават няма ў сьвеце нічога ад яго мацнейшага. Толькі не заўсёды людзі ў гэта вераць і думаюць, што каханьнем можна пагарджаць, а некаторыя мяркуюць, што за зьнішчэньне каханьня не панясуць ніякага пакараньня. Аднак жудаснай бывае тая кара, бо зламанае каханьне азначае адначасна й зламаны людзкі лёс...

Дзівілася з таго ўсяго Эдэна й моцна шкадавала, што ў ейным палацы не расьцьвіла дагэтуль ніводная, хоць-бы найменшая кветачка. Можа не ставала ёй тут вольнага паветра, а можа насеньне тых кветак не магло патрапіць у сярэдзіну палаца цераз замкнёныя крышталёвыя вокны?

Дзень-бацька замест таго распавядаў Эдэне не пра каханьне, якое ўважаў за лухту, а аб праўдзівай, на ягоную думку, сіле, каторая кіруе сьветам. Паводле ягоных словаў, найвялікшая сіла на зямлі ёсьць золата, грошы. Апавядаў, якія войны вядуцца за тое, каб багатыя зрабіліся яшчэ багацейшыя. Вось-жа якую ўладу маюць грошы над людзьмі, і невядома нават, хто над кім пануе: ці людзі над золатам, ці золата над людзьмі. Усё-бо, падкрэсьліваў Дзень-бацька, можна купіць за золата, — і каханьне таксама...

Дзівілася ўсяму гэтаму Эдэна й ня ведала, каму верыць, бо Ноч-матка заўсёды цьвердзіла, што ўсяго золата на зямлі не дастаткова, каб купіць праўдзівае каханьне. А ўжо пара настала ведаць ёй пра гэта, бо зрабілася яна дарослай паннай. І пачалі думаць ейныя бацькі, за каго выдаць замуж іхную адзіную дачку. І зноў ня мелі згоды паміж сабою. Дзень-бацька хацеў, каб Эдэна выбрала кагосьці зь ягоных рыцараў, а Ноч-матка намаўляла на карысьць сваіх. Тут трэба дадаць, што Дзень-бацька меў уладу над чорнымі рыцарамі, а Ноч-матка —над белымі, бо калі-б было наадварот, ці былі-б рыцары відочныя?

Таму як не было згоды паміж Днём і Ноччу, не было яе й спаміж падуладных ім рыцараў. І праз увесь час вяліся між імі зацятыя бойкі: аднаго разу перамогуць чорныя рыцары Дня-бацькі, наступнага разу — белыя Ночы-маткі, і гэтак без канца. Аднак Эдэна глядзела на ўсё гэта абыякавымі вачыма, і непакоіла яе толькі тое, што дагэтуль не зацьвіла ані ў ейным палацы, ані ў ейнай душы ніводная, хаця-б найсьціплейшая кветка. І ўпершыню ў жыцьці горка расплакалася Эдэна, і плакаў разам зь ёю дождж за вокнамі палацу.

Аднак дождж па некаторым часе суняўся, і зноў за вокнамі распачалося тое самае нудлівае відовішча — безнадзейная бітва чорных і белых рыцараў. Вялікае шчасьце, што ніякія гукі не пранікалі цераз крышталёвыя шкліны, і ня чутна было ржаньня коней, бразгатаньня зброі, лязгату дзідаў і мячоў аб шчыты й панцыры, крыкаў параненых і ўсяго баявога гармідару.

*Заканчэньне ў наступным нумары*

**Валеры Дзяркач**

## Нараджэньне тырана

— А што пасьля таго было?
Напэўна, сонца не ўсплыло?
— Не, дзень таміўся і таміўся...
Ды хтосьці рукі налажыў,
А хтосьці ў порткі налажыў,
А хтосьці проста прытварыўся.

Аб тым, хто рукі налажыў,
Сказаў: «А я-ж ім даражыў.
Шкада, што нельга перайначыць...
Ды я віноўнага знайду,
Ён будзе сёрбаць баланду
І, што ў жывых застаўся, дзячыць».

Таму, хто ў порткі налажыў,
Сказаў: «Жыві сабе, як жыў,
Ды зьведвай, як усе, кляззэты.
Я не будую новых плах,
Я пракладаю новы шлях —
Пра гэта пішуць усе газэты».

Таму, хто думаў абдурыць,
Сказаў: «Мяне слабо купіць.
Я не цярплю ўдыганьня й піску.
Даверу да цябе няма
Даўно ў мяне, і нездарма
Ты самы першы ў чорным сьпіску».

*1989*

*З расейскай пераклаў* **А.М.**




### Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:
*Please pay to Vilniaus Bankas AB, Vilnius, SWIFT: CBVI LT 2X, at Bankers Trust Company, New York, SWIFT: BKTR US 33, for further credit to VVIC «Demokratija Baltarusijai», account no. 9175/512*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі *(т: **61 62 24**)* або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамляем адрас у Менску: *Марыя Больдзюсава, п/с 176, 220123 Менск.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 3**.

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***


### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| **К. Акула** з Канады | **$(30 + 30)** |
| **В. Яцэвіч** з Амэрыкі | **$ 30** |
| **У. Русак** з Аўстраліі | **50 AUD** |
| **В. Богдан** з Амэрыкі | **$ 40** |
| **В. Кажан** з Амэрыкі | **$ 30** |
| **Т. Песьнякевіч** зь Менску | **$ 3** |
| **У. Ляскоўскі** зь Піншчыны | **$ 3** |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


РУНЬ газэта беларусаў Літвы

заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 62 55 71*;
факс: *(+ 370 2) 42 38 02.*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алесь Трусаў** — рэкляма й распаўсюджаньне
друк UAB aDomo Jaksto spaustuve
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**